9 кастрычніка 2015 | № 38 (455)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Сяброўства з Захадам абыдзецца танней стар. 5

**4 РЭКВІЕМ ПА САЦЫЯЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВЕ**

Ва ўмовах падзення коштаў на сыравіну сацыяльныя абавязкі ўлады апынуліся невыканальнымі

**6 ДАЧОК АДАБРАЛІ, А СЫНА КІНУЛІ ЗА КРАТЫ**

Пасля судовых разборак прайшло амаль два гады. Узгадаць сямейную трагедыю Захарычаў нас прымусіў ліст, які даслалі ў рэдакцыю

**12 ЗАМАХ НА КІТАЙ**

Нарэшце была заключаная гістарычная дамова пра Трансціхаакіянскае партнёрства (ТРР). У Кітаі гэтую дамову лічаць геапалітычнай змовай супраць Пекіна



**15 БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ФІЛУМЕНІЯ З БАРЫСАВА**

У 1970-х — 1990-х гадах, хоць і вельмі рэдка, але трапляла беларускае слова на этыкеткі карабкоў запалак. А цяпер роднай мовы на прадукцыі ААТ «Барысаўдрэў» амаль не знойдзеш




# Пра выбары і выбар

**Раніца 12 кастрычніка для кожнага пачнецца па-рознаму, і толькі для краіны — як заўсёды**

Аксана КОЛБ

Чым бліжэй 11 кастрычніка, тым больш мітусні. Больш розных заяваў, непрыхаванага прымусу, крыўдаў і абвінавачванняў. Агенты і няўдачнікі. Прыстасаванцы і байкатысты. Сапраўдныя патрыёты і здраднікі. Усё як заўсёды. Толькі, можа, больш сумна і прадказальна.

Згодна апытанню партала TUT.БАЙ, больш за 60 працэнтаў рэспандэнтаў не сочаць за гэтай кампаніяй, бо не бачаць у гэтым сэнсу. Каля 30 — сочаць, але не вельмі ўважліва. І толькі каля 7 працэнтаў сочаць за ўсім, што адбываецца. Зразумела, гэта не рэпрэзентатыўнае апытанне, але яно дае ўяўленне пра адносіны даволі актыўнай часткі насельніцтва да таго, што называецца выбарамі–2015.

Прынцыпова гэта прэзідэнцкая кампанія нічым не адрозніваецца ад тых, што былі раней. Не будзе прынцыпова іншым і вынік галасавання. Дзеючы кіраўнік Беларусі атрымае не менш за 75–80 працэнтаў. Менш папросту нельга. Менш — значыць народ раптам пачаў любіць не так моцна, а значыць, і ўвогуле можа разлюбіць. У выніковых пратаколах ЦВК проста не можа не адлюстравацца ўсенародная падтрымка бяззменнага правадыра.

Таму крыху па-дзіцячы выглядае заклік Таццяны Караткевіч да сябраў выбарчых камісій правесці сумленны падлік галасоў. Было б дзіўна, каб адны і тыя ж людзі спачатку лічылі, як казалі, а потым нечакана пачалі практыкавацца ў арыфметыцы.

Не больш пераканаўча гучаць і заклікі да байкоту. Байкот — справа сур'ёзная і патрабуе сур'ёзнай падрыхтоўкі. Да байкоту трэба было заклікаць адразу пасля фармавання выбарчых камісій, калі стала вядома, што апазіцыі ў іх не будзе, а значыць, і кантролю таксама не будзе. І не проста заклікаць, а праводзіць шырокую тлумачальную кампанію. Ну і паколькі байкот паставілі па-за законам, гэта кампанія патрабавала яшчэ і пэўнай мужнасці. А так, прабачце, атрымаўся байКот.

Зрэшты, і ў гэтым нічога прынцыпова новага няма. Кожную кампанію ёсць хтосьці, хто з рознай ступенню гучнасці заклікае да байкоту, і хтосьці, хто кажа, што калі ўсе прагаласуюць, улада не зможа сфальсіфікаваць вынік.

Спадарства, з 1996 года ўжо даўно ніхто нічога не лічыць. Ні адны выбары, што прайшлі за 19 гадоў (за рэдкім выключэннем мясцовых) не выяўлялі сапраўдный выбарчай сітуацыі. З таго часу, як выбарчыя камісіі шчасна пазбавіліся прадстаўнікоў апазіцыі і грамадскага кантролю, толькі наіўны рамантык мог разлічваць на перамогу ці хаця б сумленны вынік галасавання. Аднак удзельнікі мінулых прэзідэнцкіх кампаній маглі разлічваць на пратэст тых, чый голас не ўлічылі. І вось толькі гэтым кампанія–2015 адрозніваецца ад папярэдніх.

Гэтым разам ніхто з апазіцыйных палітыкаў на Плошчу не заклікае. І ад таго гэта выбарчая кампанія выглядае самай сумнай і бязвыхаднай. Прынамсі для тых, хто добра ўсведамляе, 12 кастрычніка ні ў эканоміцы, ні ў палітыцы нічога не зменіцца. Ну хіба што пасля прызнання вынікаў галасавання ўлады больш не будуць спакойна назіраць, як у цэнтры сталіцы праходзяць народныя сходы і сустрэчы з выбаршчыкамі.

Можа, ад гэтай безвыходнасці ўсё больш маладых ды актыўных з'язджае з краіны? Вось і вязень Плошчы–2010 Алесь Малчанаў, які з'ехаў ва Украіну, нядаўна заявіў, што вернецца толькі ў вольную Беларусь.




> **Дзеючы кіраўнік Беларусі атрымае не менш за 75-80%**

А адкуль жа яна возьмецца, вольная, калі адны з'едуць, а другія з'ядуць адзін аднаго? Калі ўсе будуць казаць пра адзінства і ніхто не саступіць другому? Калі кожны захоча стаць лідарам і ніхто не зможа ўзяць адказнасць? Калі замест таго, каб змагацца з уладай, мы будзем змагацца паміж сабой у сваёй малавядомай пясочніцы?

Такім чынам, выбараў у Беларусі няма даўно. Але выбар ёсць увесь час. І справа не ў тым, колькі кандыдатаў (дэмакратычных ці не вельмі, агентаў ці стаўленікаў) спрабуюць стварыць сваю альтэрнатыву дзейснай уладзе: два, тры ці дзевяць. Справа ў тым, што кожны з нас можа і павінен штодня (а не толькі ў дзень якіх-небудзь выбараў) вызначацца, дзе яго месца, што трэба рабіць і дзеля чаго ахвяраваць.

Вярнуцца ў Беларусь ці з'ехаць адсюль. Казаць праўду ці тое, што хочацца камусьці пачуць. Змагацца за свае правы ці прыстасоўвацца і маўчаць. Быць прынцыповым і шчырым хаця б з сабой ці шукаць апраўданні сваім учынкам. Падпарадкоўвацца законам ці бязглуздым загадам. І, нарэшце, пайсці галасаваць ці выказаць свой пратэст.

Свой сапраўдны выбар нам прыйдзецца рабіць не 11 кастрычніка, а ўжо пасля. Тады, калі нам будуць навязваць чужыя вайсковыя базы і здаваць аскепкі незалежнасці. Калі ў чарговы раз залезуць у кішэню, каб пракарміць натоўп чыноўнікаў і сілавікоў. Калі будуць вырашаць, чаму вучыць нашых дзяцей і на якой мове нам размаўляць.

Выбар ёсць у кожнага і заўсёды. Галоўнае, каб робячы яго, вы канчаткова не згубілі шлях да сябе. Бо нават самая маленькая здрада беззваротная.

# «У вас няма права на такую пасаду»

Марат ГАРАВЫ

**Пенсіянеры нагадалі кіраўніку дзяржавы і кандыдату ў прэзідэнты пра яго абавязак гаранта Канстытуцыі.**

Пра гэта гаворыцца ў 42-м звароце актывістаў Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры да кіраўніка дзяржавы.

У звароце за подпісамі 27 грамадзян з розных рэгіёнаў краіны, між іншым, зазначаецца, што ўсе скарбы Беларусі ствараліся, у тым ліку, і іхняй працай.

«Мы не змагаемся за ўладу, мы толькі жадаем узнавіць свае парушаныя правы і атрымаць адказы па сутнасці на нашы скаргі з органаў суду і пракуратуры. Права на адказ па сутнасці з'яўляецца нашым канстытуцыйным правам і зафіксавана ў арт.40 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Вы, 22-гі год займаючы пасаду кіраўніка дзяржавы, па Канстытуцыі з'яўляецеся гарантам нашых канстытуцыйных правоў. Быўшы першым прэзідэнтам незалежнай Беларусі, Вы стварылі дзеючую дзяржаўную сістэму.

Мы неаднаразова чулі ад Вас пра неабходнасць дыялогу паміж дзяржавай і грамадствам. Аднак на сорак адзін зварот да Вас мы не атрымалі адказу. А чыноўнікі Вашай Адміністрацыі прыпынілі з намі ліставанне.

Мы звярнуліся ў суд са скаргай на дзеянні Вашай Адміністрацыі. Аднак суд адмовіў нам нават ва ўзбуджэнні справы.

Мы неаднаразова звярталіся ў органы выканаўчай улады з заявамі на пікетаванне, якое з'яўляецца нашым канстытуцыйным правам. Аднак заўжды атрымлівалі адмову. У 2011 годзе мы выйшлі пікетаваць на сталічны пляц Волі, каб прыцягнуць Вашу ўвагу да нашых праблемаў. Пікет у грубай форме быў сарваны міліцыяй і неапазнанымі суб'ектамі ў цывільным. Дзевяць удзельнікаў акцыі былі затрыманыя, асуджаныя і аштрафаваныя.

Пасля чарговага звароту да вас нас некалькі дзён выклікалі ў Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Рэспублікі Беларусь. Пажылых людзей апытвалі цягам двух — шасці гадзінаў, каб сабраць матэрыял для ўзбуджэння крымінальнай справы па арт. 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Такім чынам, замест узнаўленне нашых правоў чыноўнікі прыпынілі з намі ліставанне, нас запужваюць, затрымліваюць, судзяць, штрафуюць і пагражаюць пазбаўленнем волі.

Вы ў пяты раз прэтэндуеце на галоўную дзяржаўную пасаду. Мы лічым, што ў вас няма права на такую высокую пасаду. Аднак мы ведаем, што вы яе зоймеце. І што будзе далей?» — пытаюцца грамадзяне ў кіраўніка дзяржавы.

5 кастрычніка зварот на беларускай і рускай мовах быў перададзены ў грамадскую прыёмную кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі.

# Супраць, і не першы год

Марына ДРАБЫШЭЎСКАЯ, Яўген МЕРКЕС

**Вечарам 7 кастрычніка ў Палацы культуры «Гомсельмаша» адбылася сустрэча праціўнікаў дзейснага кіраўніка дзяржавы.**




Арганізатарамі яе былі Уладзімір Кацора — каардынатар кампаніі «За справядлівыя выбары» ды старшыня Гомельскай абласной арганізацыі партыі левых «Справядлівы свет» Уладзімір Сякерка.

На устрэчу прыйшло каля 100 чалавек. Па большай частцы гэта былі пенсіянеры, але заўважыць можна было і маладзёнаў, і бюджэтнікаў (сярод іншых прыйшло некалькі кіраўнікоў культурніцкіх установаў горада).

Уладзімір Сякерка, прадстаўнік партыі «Справядлівы свет», адзначыў, што сапраўдных выбараў у краіне няма:

— Зараз як выбары праходзяць? Вось у трэцюю школу выкладчыца прыгнала 50 навучэнцаў прагаласаваць датэрмінова. Іх прымушаюць, для маладых тыя выбары — нішто. А раней як было — калі першы раз галасаваў, то кветкі табе ўручалі, падарунак нейкі. Вось да чаго трэба імкнуцца.

Не быў абыдзены і шырока вядомы цяпер «закон аб дармаедстве», і кланавасць улады, і грубасць кіраўніка дзяржавы.

А тым часам зала жыла сваім жыццём. З залы гучалі словы пра тое, што ўсе мы — русічы, пра тое, што Гомель да 1926 года быў у складзе РСФСР, і таму трэба і надалей быць разам з расейцамі.

Адна з жанчын выступіла з аповедам пра ўласнага сына. Ён мае вышэйшую адукацыю, спрабаваў па гарачыні маладой крыві працаваць у Расіі, але хутка вярнуўся, знайшоў сабе «сапраўдную» працу і адкрыў ІП. Цяпер займаецца гандлем рамонтнымі сродкамі. Шмат хто з яго сяброў таксама вярнуўся назад, і таму можна сказаць, што ў Беларусі — цудоўныя ўмовы для маладых!

Такой канстатацыі да гэтага моманту паўсонны зал не стрымаў, і ўзнялася хваля пратэсту супраць сказанага. Найбольш раз'юшаныя ўдзельнікі сустрэчы пачалі патрабаваць жанчыну назваць яе прозвішча.

— Я хацела б задаць некалькі пытанняў спадару Сякерку, — сказала дырэктар Карціннай галерэі імя Вашчанкі Людміла Шымбалёва. Дзеля гэтага яна нават адмыслова выйшла на сцэну. — Вось скажыце, вы працуеце дзесьці? Проста ў мяне пытанне: за якія грошы вы ездзіце на ўсе тыя сустрэчы, пра якія вы нам распавядалі?

— Гэта сродкі партыі «Справядлівы свет», якія былі выхучаныя на передвыбарчаю агітацыю.

— Я вельмі добра ведаю пра вашу сям'ю. Вы тут шмат чаго распавялі, але чамусь не ўзгадалі, што ваш сын жыве за мяжой, дачка туды з'ехала, жонка часта туды ездзіць. Так вось я хацела б запытацца: якога жыцця хочаце вы? Ці сапраўды кепска вам жывецца?

Гэты выпад дырэктаркі зал сустрэў моцным гулам і незадавальненнем. У выніку Шымбалёва вельмі хутка сышла разам з цэлай групай відавочна прысланых на сустрэчу бюджэтнікаў і кіраўнікоў падначаленых дзяржаве ўстаноў.

Адным з падсумаванняў прамоўленага Сякеркам было: «Нас няшмат, але мы ўсё ж ёсць». Ці адносілася гэтая фраза да тых, хто прыйшоў на сустрэчу, або апісвала актыў апазіцыйных сілаў у рэгіёнах, засталося невядомым.

— Мы кіраваліся тым, што заканадаўчы кодэкс дазваляе весці грамадзянам агітацыю як за, так і супраць прэзідэнта, — патлумачыў НЧ мэту мерапрыемства Уладзімір Кацора. — Канешне, нам, як людзям, якія даўно ў палітыцы, якія даўно супраць Лукашэнкі, проста лёсам наканавана весці супраць яго агітацыю. Тым больш што адзінства ў апазіцыі няма. Вынік вядомы загадзя — будзе чарговая «элегантная перамога».

Слоган гэтай нашай сустрэчы: скажы Лукашэнку «не». Сказаць «не» можна не пайшоўшы на выбары — гэта будзе больш удар для яго, бо зараз уся прапаганда працуе на яго і прамаўляе; «хадзіце на выбары або прайграеце».

Мы сёння хацелі б больш казаць не аб тым, што будзе 11-га, а аб тым, што будзе потым.

# Духу магутныя чары...

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**У Мінску на сядзібе ТБМ адбылася прэзентацыя новай кнігі, прысвечанай жыццю і творчасці выдатнай паэткі і дзячкі Беларускай Народнай Рэспублікі Ларысы Антонаўны Геніюш.**

Новае выданне пад назвай «Духу магутныя чары: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах» («Лімарыюс», 2015) прадставіў аматарам паэзіі укладальнік зборніка, паэт і даследчык літаратуры Міхась Скобла.

Як зазначыў Міхась Скобла, у кнізе «Духу магутныя чары: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах» сабраныя ўспаміны 64 аўтараў, у тым ліку Рыгора Барадуліна, Міхася Чарняўскага, Уладзіміра Караткевіча, Дануты Бічэль, Уладзіміра Крукоўскага, Алеся Марачкіна ды іншых знаных дзеячаў беларускай культуры і палітыкі.

Міхась Скобла падрабязна спыніўся на цікавостках гэтага выдання. Напрыклад, кніга змяшчае ўспаміны зэльвінскай сяброўкі Ларысы Геніюш З. Богдан, якая выткала для Ларысы Антонаўны 60 (!) саматканых дываноў. Пасля гэтыя дываны былі прадстаўленыя на адмысловай выставе ў Зэльве.

Цікавым і захапляльным аказаўся лёс ліста Ларысы Геніюш у ЦК КПБ (1971 года) у абарону беларускай мовы. Яго арыгінал спачатку трапіў да Васіля Быкава, а пасля апынуўся ў Ніла Гілевіча, які прадставіў яго складальніку для новай кнігі.

Вялікую частку кнігі займае перапіска Ларысы Геніюш і Зоські Верас, з якой паэтка сябравала доўгія гады, наведвала Зоську ў яе хаце ў Панарскім лесе пад Вільняй. Міхась Скобла паведаміў прысутным пра вытокі гэтага сяброўства: вядома, што Ларыса Геніюш была Генеральным сакратаром Беларускай Народнай Рэспублікі, а Зоська Верас, як не так даўно высветлілася, з'яўлялася сябрам Рады БНР! Так, гэтыя асобы яднала не толькі памяць пра гераізм і адданасць дзеячаў БНР, але і іх адказнасць за тое, каб перадаць ідэалы незалежнасці і дэмакратыі Беларускай Народнай Рэспублікі наступным пакаленням беларусаў.

# За годныя ўмовы працы

Генадзь КЕСНЕР

**7 кастрычніка — у Сусветны дзень за годную працу — арганізацыі, якія ўваходзяць у Беларускі кангрэс незалежных прафсаюзаў (БКДП), правялі ў Мінску дазволены ўладамі мітынг у Парку Дружбы народаў.**

Падавалася, што лозунгі, пад якімі праходзіла імпрэза — «Разам за годную працу, разам за годнае жыццё!», «Хто спыніць рост коштаў?», «Не — збядненню народа!», «Кантракт — удаўка для працоўных», «Еўрапейскім коштам — еўрапейскія заробкі і пенсіі» — мусілі б сабраць на мітынг процьму людзей. Аднак колькасць удзельнікаў не перавышала некалькіх дзясяткаў. І гэта сумна.

Тым не менш, арганізатары акцыі былі настроены вельмі аптымістычна. Па іх словах, галоўнае — не колькасць удзельнікаў, але сам пасыл, які мусіў дайсці да ўладаў і да працоўнага люду. Сярод выступоўцаў былі кіраўнік БКДП Аляксандр Ярашук, старшыня прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Генадзь Фядыніч, лідар Свабоднага прафсаюза металістаў Аляксандр Бухвостаў ды іншыя дзеячы прафсаюзнага руху ды проста рабочыя, настаўнікі — карацей, людзі, чые імёны не вядомыя шырокаму колу. За акцыяй назіралі лідары Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін, але слова для прамоваў не бралі.

Усе выступоўцы наракалі на істотнае пагаршэнне ўмоваў працы, на рост беспрацоўя, на бязлітасную кантрактную сістэму. Адзін з актывістаў прафсаюза РЭП Рыгор Грык нават прыйшоў на акцыю ў паласатай робе вязня канцлагера. «Улады робяць з працоўных сапраўдных рабоў ці вязняў, і гэта не павінна доўга працягвацца. Мы вартыя годных умоваў працы і годнага стаўлення да сябе з боку дзяржавы», — падкрэсліў ён, трымаючы ў руках жоўта-блакітны сцяг.

Малады настаўнік з рэгіёна Вадзім казаў пра тое, што ягоныя калегі мусяць займацца справамі, якія не тычацца непасрэдна выкладання ў школах: іх прымушаюць працаваць у выбарчых камісіях, збіраць подпісы за дзеючага кіраўніка дзяржавы.

Як заявіў Генадзь Фядыніч, цяперашняя ўлада не здольная вывесці Беларусь з крызісу. «Яна не здольная пабудаваць сацыяльную эканоміку, пра якую казалася 20 гадоў. Сёння людзі працуюць больш, а зарабляюць менш, яны прыхоплiваюць працоўныя суботы, застаюцца працаваць і пасля змены, каб зарабіць 5 мільёнаў, і гэта ў сталіцы. Ужо зачыняюцца нават прадуктовыя крамы, бо людзі не купляюць тых прадуктаў, якія набывалі раней», — канстатаваў прафсаюзны лідар.

Удзельнікі акцыі прынялі рэзалюцыю, у якой, у прыватнасці, запатрабавалі выпрацоўкі новага эканамічнага курса, здольнага забяспечыць рашэнне праблем занятасці, стварэння новых працоўных месцаў, мадэрнізацыі вытворчасцяў, істотнага павышэння заробкаў і прыбыткаў працоўных, а таксама гарантавання бяспекі ўмоваў працы.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хто будзе крайнім?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Лукашэнка сапраўды гаспадар свайго слова. Сам даў — сам забраў. Колькі год нам казалі пра «бяспечнасць» расійскай авіябазы ў Беларусі, пра тое, што яна будзе прыкрываць і нашае неба замест састарэлых нашых самалётаў. А вось зараз высвятляецца — базы не будзе.**

Ніякай расійскай базы на тэрыторыі Беларусі не будзе, а гаворка ідзе толькі аб базаванні ваенных самалётаў і верталётаў, заявіў Лукашэнка, спрабуючы адказаць крытыкам размяшчэння расійскай ваеннай авіябазы ў Бабруйску. «Я назіраю ў апошні час крыкі нашай апазіцыі з нагоды размяшчэння расійскай авіябазы на тэрыторыі Беларусі. Я нічога пра гэта не ведаю. Чалавек, які павінен прымаць гэтае рашэнне, — я пра гэта нічога не ведаю», — зрабіў фэйс кірпічыкам Аляксандр Рыгоравіч.

«Нам не трэба база сёння. Тым больш ваенна-паветраныя сілы. Нам патрэбны пэўныя ўзбраенні. Пра што я публічна таксама гаварыў Пуціну і раней Мядзведзеву», — дадаў Лукашэнка, які за 4 дні да галасавання ў чарговы раз эксплуатаваў тэму незалежнасці Беларусі.

«У нас ёсць адказнасць, і ў Расіі, і ў Беларусі. Мы заключылі пагадненне — яны адказваюць разам з намі за заходні кірунак. Фактычна мы не ў адзіночку супраць NATO тут стаім, разам з Расійскай Федэрацыяй. У нас ёсць канкрэтны план нават на выпадак вайны, як трэба дзейнічаць, — патлумачыў Лукашэнка, навошта яму расійскія знішчальнікі. — Натуральна, мы яго не апублікуем, гэта абсалютна сакрэтны план, але на гэтым напрамку галоўная сіла — гэта беларуская армія. Калі канфлікт — Расія пачынае нас падтрымліваць адпаведнымі людскімі рэсурсамі, вызначаны канкрэтныя арміі, самалёты, верталёты і гэтак далей. На выпадак канфлікту».

«У мяне на гэты конт ні з кім не было размовы», — заявіў Лукашэнка.

Але Гугл усё ведае. Былі, былі размовы ў Аляксандра Рыгоравіча. І ў 2009 годзе з Мядзведзевым, і ў 2013 годзе з міністрам абароны Расіі Сяргеем Шайгу. Менавіта ў 2013 годзе была дасягнутая (і потым выкананая) дамоўленасць пра дзяжурствы расійскіх знішчальнікаў на базе ў Баранавічах і аб стварэнні авіябазы, тады, папярэдне — у Лідзе. Праўда, Лукашэнка тады сапраўды казаў не пра «базу», а пра «самалёты». Але пра «базу» знарок зілі інфармацыю расійцы: каб паглядзець на рэакцыю клятага NATO. Рэакцыя была аніякай, і таму размовы пра «базу» прагягнуліся. Дарэчы, яе стварэнне прадугледжвалася ў гэтым годзе.

Праўда, чаго дагэтуль не патлумачыў Лукашэнка, дык гэта навошта нам супрацьстаяць NATO. У параўнанні з Расіяй гэты блок зараз выглядае белым і пухнатым кацянём. Прынамсі, выразнай небяспекі ад яго для Беларусі не бачна.

Рэакцыя Расіі на гэты спіч Рыгоравіча была прадказальна шокавай. Яны ў разгубленасці зазіраюць у дамовы, падпісаныя беларускім кіраўніком, і думаюць, чаму не верыць: альбо сваім вушам, альбо сваім вачам. «Я пакуль не гатовы каментаваць. Гэта трэба праверыць, пра што ідзе гаворка, і толькі пасля гэтага мы зможам нешта сказаць», — заявіў у адказ на словы Лукашэнкі прэс-сакратар кіраўніка Расіі Дзмітрый Пяскоў.

Няма нічога новага пад сонцам. Такі ж шок расійскія ваякі атрымалі і ў 2013-м, калі, пасля дамоўленасці з Шайгу пра авіябазу Лукашэнка заявіў, што такіх дамоўленасцяў няма, а размова ідзе ўсяго толькі пра бясплатную пастаўку самалётаў для войска Беларусі.

Ужо тады аналітыкі казалі: база — не база, Лукашэнку ўсё адно. Проста за размяшчэнне расійскай базы на беларускай тэрыторыі трэба плаціць. І кіраўнік сінявокай такім чынам «заломвае цану». Магчыма, тое ж самае атрымліваецца і зараз, але ўжо і з «палітычным» падтэкстам. Калі Масква паспрабавала «нахіліць» Лукашэнку вайсковым пытаннем, скарыстаўшыся прэзідэнцкімі выбарамі — атрымайце ў адказ падарунак!

А як потым Расія будзе плаціць за сваю базу: альбо гатоўкай, альбо беспрацэнтнымі і беззваротнымі крэдытамі — ужо пасля разбяромся.

Канешне, сваёй заявай кіраўнік Беларусі ў чарговы раз паказаў сябе як «недамаўляльнага» і непрадказальнага партнёра, здольнага ў любы момант скасаваць любыя абяцанкі, ці то вусныя, ці то пісьмовыя. Але ў тым і справа, што «ў чарговы раз». Праўда, упершыню гэта закранула «гонар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі» — супрацоўніцтва ў ваеннай сферы. Гэта была, бадай, адзіная сфера ў адносінах дзвюх краін, у якой усе дамовы выконваліся — да цяперашняга часу.

А яшчэ, за пяць дзён да выбараў мы даведаліся, колькі народу прагаласуе за Аляксандра Рыгоравіча. Лукашэнка хацеў бы, каб лічба галасоў за яго склала 80%. Па ягоных словах, гэта важна, каб з моцнай пазіцыі выступаць на міжнароднай арэне. «Прыйдзе на выбары 40%. Ну ці 50%, у нас менш за палову быць не павінна. Ну вось 50% прыйдзе і 1 голас, і за яго там прагаласуе дзесяці палова. А за спінай будзе ўсяго 25% насельніцтва, якія за яго прагаласуюць. І як ён будзе весці перамовы потым? З іншымі кіраўнікамі дзяржаў?» — сказаў Аляксандр Лукашэнка ў часе адкрыцця першага кавалка другой МКАД пад Мінскам.

«І калі прэзідэнт моцны, як вы заўсёды мяне падтрымлівалі, — 80%! Ні ў каго нават пытанняў не было. Калі я прыязджаю і вяду перамовы, ён разумее: 80% за яго прагаласавала», — дадаў ён.

Спадарыня Лідзія Ярмошына, кіраўніца ЦВК, і, па яе ж словах, «чалавек прэзідэнта», не можа не ўлічыць жаданне свайго патрона. Калі ён сказаў 80% — значыць, будуць 80%. Словы Лукашэнкі толькі ў чарговы раз прадэманстравалі, што аніякіх зменаў у беларускіх выбарах не адбудзецца.

Зразумела, калі за кіраўніка дзяржавы прагаласавалі 80% — ён будзе «весці перамовы потым». А вось калі яму намалявалі гэтыя 80% — гэта ўжо іншая справа. У перамоўным працэсе яму застаецца альбо казаць састарэлыя банальнасці з трыбунаў міжнародных арганізацый, альбо «падносіць каву вёдрамі» тым, за каго прагаласавала 50% + 1. Бо за тых прагаласавалі, а не намалявалі ім лічбы.

Іншыя кандыдаты ў прэзідэнты пасля такіх заяваў могуць адпачываць. Яны зрабілі ўсё, што маглі. Зараз ад іх нічога не залежыць. Яны могуць адпачываць і цешыцца: ім не прыйдзецца разграбаць усё тое, што нарабіў Аляксандр Рыгоравіч у краіне, і асабліва — у эканоміцы. Адказным за ўсё па-ранейшаму будзе ён.

А вось Лукашэнку не пазайздросціш. Бо ўсе астатнія, — у тым ліку і Масква, — таксама разумеюць, хто за ўсё адказны.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Таццяна Караткевіч

**Кандыдатка ў прэзідэнты Беларусі правяла вельмі своеасаблівы пікет у мінскім універмагу «Цэнтральны».**

Караткевіч вырашыла спраўдзіць, што можа сабе дазволіць беларус на грошы, якія дзяржава вызначыла як пражытковы мінімум.

«У нас ёсць лічба, на якую арыентуецца дзяржава і з дапамогай якой яна ацэньвае якасць жыцця. Ёсць такі бюджэт пражытковага мінімуму. Сёння ён на дарослага чалавека 1 мільён 700 тысяч. Мы падзялілі гэты мільён семсот на чатыры тыдні», — распавяла Караткевіч. З іх 50 тысяч адклалі «на праезд» і 50 тысяч — «на камунальныя паслугі». Засталося 300 тысяч.

У кошыку Караткевіч апынуліся хлеб з семкамі за 9.600, батон за 4.900, малако і кефір — па літру, два кавалкі ялавічыны без костак — каля 145 тысяч і 700 грамаў курыных сцёгнаў на 36 тысяч. Яшчэ ў кошыку Караткевіч апынуліся бананы (22.700), ёгурт «Аптымаль» без цукру (10.800), сыр «Пікавая дама з водарам грэцкага арэха» (24.600), дзясятак яек (21.000), два памідоры і чатыры агуркі і слівы. Усяго на 315.200 беларускіх рублёў. 15 тысяч — гэта ўжо перарасход, але, як патлумачыла кандыдатка, яна надта любіць слівы.

Мяне цікавіць, як Караткевіч пражыве на гэтым наборы прадуктаў тыдзень. Бо ў яе бананы замест бульбы, ёгурт замест грэчкі, слівы замест алею ці масла. Падаецца мне, што патрачаныя ёю 300 тысяч — на адну вячэру.

## Аляксандра Герасіменя

**Чэмпіёнка свету і сярэбраная прызёрка Алімпіяды–2012 у плаванні ў інтэрв'ю «Народнай волі» ў чарговы раз выступіла за нацыянальныя сімвалы Беларусі.**



«Мне здаецца, што старажытны сімвал нашай зямлі — Вялікага Княства Літоўскага — «Пагоня» актуальны сёння, як ніколі. Калісьці вершнікі ВКЛ даганялі захопнікаў, якія ўрываліся і рабавалі нашу зямлю. Цяпер нам таксама трэба даганяць — дзякуй Богу, не для ўзброенай сутычкі, а для таго, каб адчуваць сябе роўнымі сярод моцных. Нам ёсць чаму вучыцца, і гэта абавязкова трэба рабіць, таму што расце толькі той, хто ўмее мяняцца», — наноў патлумачыла Аляксандра Герасіменя «Пагоню».

«Я люблю мову, як і ўсе нармальныя беларусы. Але ў рэальным жыцці карыстаюся ёй рэдка. І, скажам, у нашай зборнай ніхто на ёй не размаўляе. А я не настолькі фанатычны праваднік беларускай мовы, каб камунікаваць на ёй 24 гадзіны на суткі. Хоць упэўненая, што родную мову павінен ведаць кожны з нас. І кожны сам вырашае, якім чынам павінен яе паважаць», — заявіла Герасіменя.

Спадзяемся, што пасля гэтых выказванняў Герасімені ў зборнай пачнуць вучыць беларускую мову. Бо ў вачах Герасімені яны выглядаюць... Што там яна казала пра «нармальных беларусаў»?

## Крысціна Базан

**Ураджэнка Беларусі, вядучая блога аб модзе і прыгажосці, стала новым паслом парфумернай кампаніі L'Oreal.**



Крысціна Базан нарадзілася ў Мінску, але пазней пераехала ў ЗША, а затым — у Швейцарыю. Блог пад назвай Kayture Базан пачала весці ў 2011 годзе, у месяц ён набірае каля двух мільёнаў праглядаў. Колькасць падпісчыкаў 21-гадовай дзяўчыны ў Instagram дасягае двух мільёнаў чалавек.

Базан ужо супрацоўнічала з моднымі брэндамі, напрыклад, Mango і Kérastase. У межах супрацоўніцтва з L'Oreal яна будзе прасоўваць прадукцыю кампаніі ў сваім блогу. Звычайна паслы займаюцца тым, што ладзяць прэзентацыі для гандлёвых прадстаўнікоў і прадаўцоў, а таксама прымаюць удзел у публічных мерапрыемствах брэнда. Супрацоўнічаць з L'Oreal Базан будзе разам з акторкамі Наомі Уотс і Джуліян Мур і супермадэллю Карлі Клос. Як правіла, пасламі кампаніі становяцца знакамітасці.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Рэквіем па сацыяльнай дзяржаве




**Ва ўмовах падзення коштаў на сыравіну сацыяльныя абавязкі ўлады апынуліся невыканальнымі.**

Ад ліхаманкі Эбола 2013–2015 гадоў у Заходняй Афрыцы, паводле дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ), памерлі больш за 11 тысяч чалавек. Да асноўных фактараў, якія садзейнічалі развіццю эпідэміі — крайняй галечы і неразвітасці аховы здароўя, — дадаліся традыцыйныя звычаі (напрыклад, рытуальнае абмыванне целаў памерлых) і недавер насельніцтва да заходняй медыцыны.

Хворыя звярталіся да знахароў або ведзьмакоў. Медыцынскіх жа работнікаў часам абвяшчалі вінаватымі ў распаўсюджванні хваробы, і натоўпы мясцовых жыхароў грамілі бальніцы.

Мы жывем не ў Афрыцы, а ў геаграфічным цэнтры Еўропы. У тыповага прадстаўніка чорнага кантынента свае прусакі ў галаве, а ў тыповага беларуса — свае. Колькасць і якасць прусакоў вызначаюцца культурай.

Пад загалоўкам «Культура мае значэнне» ў 2000 годзе ў Нью-Ёрку выйшла кніга пад рэдакцыяй эканаміста Лоўрэнса Харысана і палітолага Самюэля Хантынгтана. Яе рускі пераклад даступны ў інтэрнэце. Кніга прысвечана ўплыву каштоўнасцяў на грамадскі прагрэс. З пераканаўчага прыкладу такога ўплыву я і пачаў чарговую «Азбуку паліталогіі».

Любая лакальная культура не з'яўляецца канстантай. Пад уплывам знешніх і ўнутраных выклікаў культуры пастаянна змяняюцца. Але змяненне не абавязкова азначае развіццё. Змяняючыся, можна і дэградаваць.

За прыкладамі дэградацыі далёка хадзіць не трэба. 23 верасня СААЗ апублікавала чарговы даклад аб стане здароўя еўрапейцаў. Беларусы лідзіруюць у Еўропе па спажыванні чыстага спірту ў год на чалавека — 14,4 літра, а разам з літоўцамі — па колькасці самагубстваў.

## Здагадайцеся з трох разоў

30 верасня «самая аўтарытэтная газета» нашай краіны апублікавала артыкул акадэміка Анатоля Рубінава «Грамадзяне, паслухайце мяне!». Артыкул утрымлівае шэраг цікавых адкрыццяў. Абмяжуюся адным: «Маладая суверэнная Беларусь знаходзіцца на пачатковым гістарычным этапе свайго развіцця, і, як ужо адзначалася, пакуль мы не можам цалкам капіяваць палітычны лад заходніх краін. Там даўно ўжо склалася такая сістэма самарэгулявання і мясцовага самакіравання, пры якой сацыяльна-эканамічны механізм працуе ў дастатковай ступені аўтаномна і не так моцна залежыць ад цэнтральнай улады».

Цалкам згодны. Няздольнасць грамадства да самарэгулявання — адна з ключавых нашых праблем. Гэта тое, што робіць сучасную Беларусь несучаснай, такім чынам, неканкурэнтаздольнай у глабалізаваным свеце.

Усведамленне праблемы — залог яе паспяховага рашэння. Артыкул акадэміка змяшчае 22961 знак (без прабелаў). Я яго ўважліва прачытаў у надзеі знайсці прапановы, накіраваныя на павышэнне аўтаноміі айчыннага сацыяльна-эканамічнага механізму. Аднак усе мае спадзяванні не спраўдзіліся.

Што ж прапануецца ва ўмовах, калі «на кон пастаўлена пытанне аб захаванні Беларусі як суверэннай дзяржавы нашага народа, як самастойнай нацыі»? Прапануецца «не шарахацца, не мяняць свайго курсу», а «даверыць і далей весці нашу краіну»... Здагадайцеся з трох разоў, каму? Ну, зразумела, «сапраўднаму патрыёту і таленавітаму палітыку, лідару, які на справе даказаў здольнасць абараняць свой народ у самых складаных сітуацыях».

Сваю прапанову акадэмік абгрунтоўвае, па-першае, нарастаючай канкурэнцыяй на сусветных рынках і барацьбой за рэсурсы; па-другое, прыкладамі з найноўшай гісторыі постсавецкіх краін. Прыклады ён падзяляе на пазітыўныя і негатыўныя. Пазітыўныя прыклады, на яго думку, прадэманстравалі краіны, дзе захоўваецца моцная і незмяняльная ўлада, негатыўныя — краіны, у якіх «пад модным сцягам дэмакратызацыі ідзе пастаянная палітычная барацьба, не сціхаюць парламенцкія бітвы, даецца ход «каляровым рэвалюцыям» і Майдану». І як вынік — банкруцтва і дэградацыя.

А куды ў гэтай схеме трапляюць былыя савецкія прыбалтыйскія рэспублікі? Між іншым, дзве з іх (Літва і Латвія) маюць з Беларуссю агульную мяжу. Адказу на гэта відавочнае пытанне я не знайшоў, як не знайшоў і тлумачэння прычын лідарства рэспублікі-партызанкі ў «рэйтынгах» СААЗ. Дэградаваць, як паказвае практыка, можна і ва ўмовах моцнай ды незмяняльнай улады.

Тым не менш праблема несціханых парламенцкіх бітваў на постсавецкай прасторы існуе, і свой уклад у дэградацыю яна ўносіць.

## Эліта панавання і эліта развіцця

Паспрабую падвесці падмурак пад пазітыўныя і негатыўныя прыклады акадэміка. На акадэмічны ўзровень я не прэтэндую, бо не здольны выйсці за мяжу азбукавых ісцін.

Тэорыя, якая пацвярджаецца практыкай, абвяшчае: пры слабых інстытутах — чым больш дэмакратыі, тым горшы рост (Украіна), а пры моцных інстытутах — чым больш дэмакратыі, тым вышэйшы рост (ЗША). Інстытуты важней за дэмакратыю. Тут варта прыгадаць дыктатара Піначэта, пры якім чылійская эканоміка расла хутчэй, чым пры дэмакраты Альендэ.

Пытанне, такім чынам, упіраецца ў якасць беларускіх інстытутаў. Наш галоўны інстытут — гэта ўладная «вертыкаль». Я не магу ацаніць яе кампетэнтна, таму звернемся па дапамогу да адзінага палітыка (АП): «Вы, як заўсёды, чакаеце ўказанняў і даручэнняў ад прэзідэнта, замест таго, каб самім своечасова вырашаць праблемы, якія ўзнікаюць. Мне даводзіцца ўвесь час «падштурхоўваць» выканаўчую вертыкаль. Толькі пасля жорсткіх патрабаванняў урад і Нацыянальны банк пачынаюць дзейнічаць, дый тое не заўсёды так, як трэба, і ў поўным аб'ёме».

Вось такая характарыстыка. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што на працягу двух дзесяцігоддзяў АП рэгулярна звяртаецца да тэмы навядзення элементарнага парадку ў краіне. На парадак больш высокага ўзроўню ён і не замахваецца.

Што трэба для пераходу ад неэфектыўных інстытутаў да інстытутаў эфектыўных? Шмат чаго трэба, але ў першую чаргу — эліта, зацікаўленая ў падобным пераходзе.

Я як публіцыст, не здольны ўзняцца вышэй за ўзровень «Азбукі паліталогіі», тым не менш магу адрозніваць два віды элітаў: эліты панавання і эліты развіцця.

На працягу тысячагоддзяў у свеце пераважаў першы тып элітаў. Важнае выключэнне — цывілізацыя рысавай культуры. Справа ў тым, што вырошчванне рысу было немагчыма без арашальных сістэм. За іх будаўніцтва і эксплуатацыю адказвалі дзяржаўныя чыноўнікі, ад якіх патрэбна была не толькі дысцыплінаванасць і адданасць кіраўніку, але асабістая ініцыятыва, памножаная на творчасць.

Таму, каб заняць дзяржаўныя пасады ў Кітаі, патрэбныя былі не родныя сувязі і пратэкцыя, а здача экзаменаў. Пра існаванне найбольш ранніх экзаменаў, якія паклалі пачатак так званай сістэме кэцзюй, вядома мала, але ўскосныя звесткі паказваюць на 3 ст. да н. э. На думку шэрагу аўтарытэтных кітаістаў, сістэма кэцзюй уяўляла сабой цэнтральны элемент у культурнай гісторыі Кітая.

Якасці дзяржавы не ў апошнюю чаргу і абавязаны сучасны Кітай свайму паспяховаму пераходу ад сацыялістычнай (пераразмеркавальнай) мадэлі да рынкавай. Кітайская дзяржава пры гэтым не распалася і не страціла кантроль над працэсам трансфармацыі.

## Без набажэнства не абысціся

Рэжым «мадэрнізацыі, што даганяе», у якім расійска-савецкая імперыя жыла на працягу 300 гадоў, патрабаваў ад традыцыйнай эліты панавання вырашаць задачы развіцця. У працэсе іх вырашэння грамадству была адведзена роля расходнага матэрыялу. Колькасць ахвяр толькі падкрэслівала грандыёзнасць задумаў.

Атамная бомба, першы спадарожнік і палёт Гагарына — гэта вяршыня, якую атрымалася ўзяць эліце панавання. З другой паловы 60-х гадоў пачаўся спуск. Атамная бомба зняла праблему знешняй пагрозы, абясцэніўшы тым самым задачу развіцця. А што ўзамен? Узамен — асабістае спажыванне на ўзроўні сусветных стандартаў.

Працытую палітолага Уладзіміра Пастухова: «Рух прагных спажыўцоў, што прысвоілі сабе рамантычныя ідэалы шасцідзясятнікаў, але на самай справе проста імкнуліся да жыцця паводле заходніх стандартаў, стаў галоўнай рухаючай сілай перабудовы. Гэта абумовіла яе супярэчлівы, палавіністы характар — для асноўнай масы «рэвалюцыянераў» з усіх відаў абвешчаных свабодаў найважнейшай апынулася свабода імпарту».

Задача развіцця ў Расіі больш не актуальная. «Мадэрнізацыя, што даганяе», скасавала. Расійская эліта жыве з пераразмеркавання прыроднай рэнты і рэкорднымі тэмпамі нарошчвае колькасць доларавых мільярдэраў.

Беларускай эліце на супастаўны аб'ём прыроднай рэнты разлічваць не даводзіцца. Адсюль шматлікія спробы ўтрымацца ў рэжыме мадэрнізацыі, што даганяе. Але вышэй за галаву не скочыць. 2013 год паказаў, што чым больш дзяржава ўкладае ў мадэрнізацыю вытворчасці, тым большы аб'ём страт.

Амаль два дзесяцігоддзі АП выдаткаваў на будаўніцтва сацыяльнай дзяржавы. Ён памятаў пустыя прылаўкі ў канцы 80-х і разумеў, што яны згулялі далёка не апошнюю ролю ў «найвялікшай геапалітычнай катастрофе XX стагоддзя». Але для таго, каб вылузвацца, крылы трэба мець. Так абвяшчае народная мудрасць. Ва ўмовах падзення коштаў на сыравіну сацыяльныя абавязкі ўлады апынуліся невыканальнымі. Гэта пагражае дзяржаве чарговым крахам. Айчынная гісторыя цыклічная. У XX стагоддзі крах дзяржавы надыходзіў двойчы: у цыкле 1905–1921 і ў цыкле 1987–1993 гадоў.

Небяспека адчуваецца настолькі востра, што давялося «праваслаўнаму атэісту» арганізаваць малебен. «Хочацца верыць, — піша самая салідная газета, — што мы сталі сведкамі новай, вельмі значнай для краіны і людзей традыцыі. У мінскім храме-помніку Усіх Святых прайшла велічная цырымонія — Малітва за Беларусь».

Я ўважліва перачытаў прэс-рэліз на сайце president.gov.by: «Сёння зямны шар расколваецца ад крывавых канфліктаў». Вайна на парозе. У любую хвіліну полчышчы агрэсараў вераломна перасякуць мяжу Беларусі.

Сацыяльная дзяржава сканала. Застаецца радавацца, што снарады пакуль яшчэ не рвуцца на нашых вуліцах.

Вольга ХВОІН

**Беларускі рэжым мае ўсе шанцы наладзіць стасункі з ЕС. Для гэтага нават не давядзецца радыкальна змяняць дзейсную палітычную сістэму, дастаткова толькі кантраляваць эмоцыі ў публічных выступах ды весці дыялогі. Еўрасаюз гатовы рабіць палітычныя зніжкі Беларусі, калі яна не прадэманструе абуральных крокаў у галіне правоў чалавека.**




# Сяброўства з Захадам абыдзецца танней

З кім сябраваць і якія варыянты развіцця знешняй палітыкі Беларусі пасля выбараў — гэта абмяркоўвалі падчас V Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі. Эксперты адзначаюць, што сёлета назіраецца нармалізацыя адносін Беларусі з Еўрасаюзам: бакі аднавілі дыялог па правах чалавека, а Брусель зняў санкцыі з шэрагу беларускіх чыноўнікаў і прадпрыемстваў. У канцы жніўня былі памілаваныя амаль усе палітычныя зняволеныя — гэта рашэнне беларускіх уладаў здымае адну з галоўных перашкодаў для далейшага развіцця адносінаў з ЕС. У дзяржаўных СМІ рыторыка ў дачыненні да Захаду змякчылася, што заўсёды адлюстроўвае пазіцыю афіцыйнага Мінска. На фоне тэндэнцыі да паляпшэння адносінаў з краінамі Захаду назіраецца некаторае нарастанне супярэчнасцяў у адносінах з Расіяй.

Разам з тым варта адзначыць, што нават афіцыйныя праграмы ЕС для Беларусі дзяржава не рэалізавала ў поўнай меры і пакуль не мае магчымасцяў для гэтага.


**Дзяніс Мельянцоў**

«Беларусь разлічвала, што праграма «Усходняе партнёрства» дапаможа знайсці фінансавыя сродкі рознага кшталту — інвестыцыі, разнастайныя праекты, якія ЕС мог бы фінансаваць. Былі спадзевы, што праз гэтую праграму атрымаецца ладзіць дыялог з Брусэлем. Але ў выніку двухбаковы шлях гэтай праграмы для Беларусі закрыты, бо наша дзяржава не з'яўляецца паўнавартасна сябрам еўрапейскай палітыкі суседства і ўдзельнічае толькі ў шматбаковым вымярэнні праграмы, таксама не ўдзельнічае паўнавартасна ў Еўранэсце. Замест беларускіх дэпутатаў там час ад часу прысутнічаюць прадстаўнікі апазіцыі. Беларусь ніколі не дэкларавала, што збіраецца ўступаць у ЕС. Адпаведна, не выконвае ніякіх «хатніх заданняў», каб атрымаць нешта ўзамен. Сітуацыю пагаршае палітыка санкцыяў. Таму многае ў перыяд 2011 па 2015 год афіцыйны Мінск спрабаваў рабіць насуперак ЕС. Атрымалася такое «нішто за нішто», — гаворыць старэйшы аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў Дзяніс Мельянцоў.

Праграма «Усходняе партнёрства» па факце застаецца камунікацыйнай пляцоўкай з ЕС. І пры ўсёй сваёй абкарнанай форме для Беларусі спрыяе пашырэнню камунікацый, інстытуцыяналізацыі стасункаў з Еўрапейскім саюзам. А на фоне падзей, якія адбываюцца цяпер ва Украіне, напружаных адносінаў Еўрасаюза з Расіяй, еўрапейскі бок схільны не драматызаваць адносіны, а факусавацца на іх эканамічным вымярэнні.

«У адносінах ЕС і Беларусі вызначальным фактарам ёсць не толькі каштоўнасці. Бо той жа Азербайджан — яшчэ больш дыктатарская краіна. Разам з тым Аліева цудоўна прымаюць у Брусэлі. Іх парламент, абраны гэтак жа, як і беларускі, з'яўляецца часткай Еўранэста. З аднаго боку, стаўленне да Беларусі такое, бо краіна не адпавядае стандартам дэмакратыі. Але ёсць і розніца інтарэсаў ЕС. То бок Еўрасаюз у Беларусі мае куды менш асабістых інтарэсаў і можна быць больш прынцыповым», — гаворыць Мельянцоў.

Дырэктар інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» Андрэй Казакевіч мяркуе, што цяпер планка для наладжвання добрых стасункаў з Еўрасаюзам знізілася. Прычыны таму палягаюць у крызісных з'явах рэгіёна.



**Андрэй Казакевіч**

«Калі Беларусь захоча мець добрыя стасункі з ЕС, нават пры цяперашняй палітычнай сістэме, яна будзе іх мець. Натуральна, трэба будзе пайсці на нейкія саступкі, але гэта можа быць прадметам перамоў. Я б патлумачыў доўгія халодныя адносіны з ЕС не наяўнасцю аўтарытарнага рэжыму ў нашай дзяржаве, а менавіта яго тыпам. У выступах Лукашэнкі можна знайсці многа выпадаў у бок ЕС, Захаду. Таксама прынамсі палову часу незалежнасці Беларусі ў афіцыйнага Мінска проста не даходзілі рукі займацца навяздзеннем мастоў у адносінах. І некаторы час нават з супрацьстаяння з Захадам спрабавалі выцягнуць нейкія бонусы, так званы «продаж дыктатарства Расіі» — калі за кепскія стасункі з Захадам атрымлівалі эканамічныя рэсурсы ад Расіі», — адзначае Андрэй Казакевіч.

Аляксандр Лукашэнка, прымаючы 5 кастрычніка даверчыя граматы паслоў шэрагу замежных дзяржаў, таксама гаварыў пра эканамічнае супрацоўніцтва з ЕС.

«Мы павінны падняць іх (адносіны Беларусі і ЕС. — аўт.) на якасна новы ўзровень, які адпавядае інтарэсам абодвух бакоў», — сказаў Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што Беларусь зацікаўлена ў пашырэнні гандлёва-эканамічнага і інвестыцыйнага супрацоўніцтва з Еўрасаюзам. На яго думку, перспектыўнымі могуць стаць сумесныя інфраструктурныя праекты ў сферы транспарту, энергетыкі, іншых сферах эканомікі, а таксама ў развіцці дагаворна-прававой базы.

Не варта забывацца, што ў выбудоўванні адносінаў з Захадам ёсць такі моцны фактар, як сяброўства Беларусі ў ЕАЭС. Таму, калі на што і можна разлічваць Беларусі, дык на супрацоўніцтва ў эканамічных кірунках, без закранання пытанняў інтэграцыі, сферы бяспекі і палітыкі. На знешнюю палітыку ЕС цяпер уплывае такі фактар, як трансфармацыя ўсёй палітыкі суседства Еўрасаюза. Як паведамляе «Reuters», палітыка суседства ЕС грунтоўна пераглядаецца з пераходам на больш сціплы, гнуткі і дыферэнцыраваны падыход, які будзе прадстаўлены 17 лістапада.

Беларускія эксперты бачаць у еўразійскай інтэграцыі для Беларусі больш праблем, чым выгадаў. Хаця гэты інтэграцыйны праект суправаджае многа інфармацыйнага шуму, але не столькі ж эканамічнага і палітычнага зместу.

Андрэй Казакевіч апелюе найперш да моманту асіметрыі, нераўназначнасці краін-сябраў ЕАЭС. «Першая і асноўная асіметрыя палягае ў тым, што балансу няма паводле тэрыторый, дэмаграфічнага складніку, эканомікі, палітычных амбіцый. Думаю, гэта асноўны фактар, які вызначае бесперспектыўнасць постсавецкай інтэграцыі», — падкрэслівае палітолаг.

На яго думку, канкрэтна цяпер Беларусі рэзкіх крокаў у інтэграцыйных кірунках рабіць нельга, бо гэта можа прывесці да сур'ёзных наступстваў.

«Натуральна, стасункі з Расіяй з'яўляюцца важнымі, і па многіх параметрах ад іх адмовіцца, прынамсі ў сярэднетэрміновай перспектыве, нельга. Але вялікай будучыні ў праекце расійскай інтэграцыі няма. Частка беларускай эліты ўспрымае еўразійскія праекты больш сур'ёзна, чым яны ёсць насамрэч. Я б параіў у пэўных галінах эканомікі, дзе гэта асабліва невыгодна, папросту нічога не рабіць. То бок не інвеставаць», — раіць Андрэй Казакевіч.

З гэтым згодны і Мельянцоў, які бачыць інтарэсы Беларусі не ў Еўразійскім саюзе. «Але гэта пацягне за сабой вялікія трансфармацыйныя змены ўнутры Беларусі, бо наша эканоміка моцна завязаная на Расію».

Паводле ацэнак экспертнай супольнасці, у першым паўгоддзі 2015-га Беларусь нарэшце стала рухацца ў бок рэальнай, а не дэклараванай знешнепалітычнай шматвектарнасці. Назіраецца і пэўны антысаюзніцкі трэнд унутры грамадства. Вераснёўскае апытанне НІСЭПД паказала, што прыкладна палова рэспандэнтаў выказаліся адмоўна і ў адносінах да далучэння Беларусі да ЕС, і ў адносінах да аб'яднання з Расіяй. За першае выступае прыкладна чвэрць апытаных, за другое — прыкладна траціна. На працягу апошніх пяці гадоў расце адсотак людзей, якія хацелі б жыць па-за нейкімі саюзамі.

TV

## 18 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.25** Крымінальная камедыя «Усё адразу».
**09.00** Навіны.
**08.10** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна).
**09.00** Навіны.
**09.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».
**10.45** 50 рэцэптаў першага.
**11.20** XXL WOMAN TV.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны.
**12.35** Зона Х.
**13.05** Вялікі рэпартаж.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Формула шчасця».
**17.25** Меладрама «Адбітак кахання».



**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Чацвер 12-Е».
**00.30** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».

### НТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.00** Нашы навіны.
**12.15** Разам з дэльфінамі.
**14.00** Мастацкі фільм «Кантужаны або ўрокі плавання вольным стылем».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Геніі і злыдні».
**17.00** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**21.20** Справа прынцыпу.
**23.20** Што? Дзе? Калі ? Восеньская серыя.
**00.30** Мастацкі фільм «Вясёлыя рабяты».

### СТВ

**06.25** Камедыйны серыял «Афрамасквіч».
**07.15** Сардэчна паскардзіцца.
**07.35** Аўтапанарама.
**08.05** «Смяротная зброя».
**10.15** Чысты праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** «Салдаты 5». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Ганна Карэніна».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** «Аўтапанарама».
**17.20** Ваенная таямніца.
**19.30** Тыдзень.
**20.25** «Трыкутнік».
**22.10** Званая вячэра.
**00.00** «Ганна Карэніна».

### 2 Беларусь

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» Італія.
**08.05** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.00** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**10.30** Тэлебарометр.
**11.10** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.20** Зразумець і абясшкодзіць.
**12.55** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**15.05** Баявік «Іншапланетнае ўварванне: Бітва за Лос-Анжэлес».
**17.15** Баявік «Людзі ў чорным».
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.25** Хачу ў тэлевізар!
**23.35** Містычны трылер «Прывіды» (Вялікабрытанія).
**00.40** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Нестар Бурма». Крымінальны дэтэктыў (Францыя, 1992 г.).
**09.40** «Адпачынак у верасні». Трагікамедыя. 1–2 серыі (СССР, 1979 г.).
**12.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Таццяна Дабравольская.
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.55** «Наперад у мінулае».
**13.25** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**14.20** «Справы фамільныя». «Ад шпількі і запалкі.. « Гісторыя ўзнікнення фабрыкі «Пінскдрэў» братоў Лур'е.
**14.50** «Музеі Беларусі». Мазырскі аб'яднаны краязнаўчы музей.
**15.20** «Калейдаскоп».
**15.30** «Бусляня». Кароткаметражны фільм (СССР, 1980 г.).
**16.15** «Развод па-італьянску». Трагікамедыя (Італія, 1961 г.).
**17.55** «Калейдаскоп».
**18.10** «Не бойся, я з табой!» Музычная прыгодніцкая камедыя. 1–2 серыі (СССР, 1981 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** Гурт «Пава».
**21.55** «Нестар Бурма». Крымінальны дэтэктыў (Францыя, 1992 г.).
**23.20** Леанід Млечын прадстаўляе. «Смерць артыста». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**23.55** «Калейдаскоп».
**00.10** Перерыв в вещеании.

### 5 Беларусь

**07.35** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы.
**09.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Тотэнхэм - Ліверпуль.
**11.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Чэлсі - Астан Віла.
**13.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Эвертан - Манчэстэр Юнайтэд.
**15.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**15.55** Гандбол. Кубак ЕГФ.
**17.30** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Цмокі - Зеніт.
**19.20** Авертайм.
**19.50** Фактар сілы.
**20.10** Сэлфі.
**20.40** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы.
**22.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Ньюкасл - Норвіч.
**00.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет.
**07.45** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: З чаго робяць хлеб?
**07.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**08.00** Між намі, буслами, мультсерыял.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.45** Два на два (тэледыскусія): Аляксандр Папко і Андрэй Елісееў: Ці прыме Захад Лукашэнку?
**10.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Лідскага замку.
**10.55** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Сезонныя змены ў жыцці жывёлы.
**11.05** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**11.10** Між намі, буслами, мультсерыял.
**11.35** Машына зменаў, тэлесерыял.
**12.05** Мова нанова: Бізнес.
**12.25** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**12.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.30** Салідарныя з Беларуссю–2008, канцэрт: выступ гурта «IQ48».
**14.05** Апошнія сакрэты Трэцяга Райху, дак. серыял: Сям'я Гітлера.
**14.55** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**15.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**16.00** Людскія справы.
**16.35** Мне патрэбная ты, музычны фільм.
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** Ерэван ад золку да змяркання, д/ф.
**19.10** Невядомая Беларусь: Універсітэт Каліноўскага, д/ф.
**19.45** Сведкі: Друя.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Іспанія: змярканне караля, д/ф, 2014 г., Францыя.
**21.25** Кінаклуб: «Жыццё тае іншай».
**21.40** Жыццё таé іншай, м/ф.
**23.20** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афармўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 __________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 625-57-51.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир



**Важна нагадаць, што пратэсты супраць Саакашвілі падтрымаў вельмі добра арганізаваны грузінскі крыміналітэт**



# Канец адной мары

**У Грузіі назіраецца працэс масавага расчаравання ўладай, якая прыйшла на змену адміністрацыі Саакашвілі. Аднак перспектыва вяртання ва ўладу Мішы пасля парламенцкіх выбараў усё ж спрэчная, распавядае ў размове з журналістам НЧ Алегам Новікавым грузінскі актывіст Мурат Жванія.**

***— У 2013 годзе ў Грузіі закончылася эра Саакашвілі. Архітэктар рэформаў нават вымушаны быў збегчы з краіны, якая раней вітала прыход да ўлады кааліцыі «Грузінская мара». Як можна ацаніць вынікі яе праўлення?***

— Асабліва камандзе Бідзіны Іванішвілі (алігарх, які стаіць за «Грузінскай марай») ганарыцца няма чым. Пра гэта можа сведчыць хуткае скарачэнне сяброў яе парламенцкай фракцыі, якія адвачна клапоцяцца пра сваю палітычную будучыню. На падзенне даверу да дзеючай адміністрацыі ўплываюць некалькі прычын. Гэта не выкананыя выбарчыя сацыяльна-эканамічныя абяцанкі, якія шырока раздаваліся. Кожнай вёсцы абяцаліся мільённыя інвестыцыі, а сярэднія заробкі мелі вырасці да 400 долараў. Па-другое, гэта адвачнае праяданне ўсяго, што зрабіў Міша. Пасля яго сыходу ніякіх буйных праектаў урад не рэалізуе. Нарэшце, працягваецца эканамічны крызіс. Калі Саакашвілі пакідаў пасаду прэзідэнта, долар каштаваў паўтары лары. Цяпер ён цягне амаль на два з паловай, а памеры заробкаў і пенсій практычна не змяніліся. Тых грошай, што атрымліваюць пенсіянеры або занятыя ў бюджэтнай сферы, часта папросту не хапае на фізічнае выжыванне. Напрыклад, звычайна пенсія складае 150 лары, а настаўніца ў сярэднім атрымлівае 250 лары.

***— Адным з галоўных дасягненняў Саакашвілі была рэформа паліцыі. Якое месца займае МУС у палітыцы «Грузінскай мары»?***

— Новая паліцыя, безумоўна, была прарывам для Грузіі. Дастаткова казаць, што пасля той рэформы ўпершыню паводле сацыялагічных апытанняў большасць грузінскіх дзяцей перасталі марыць быць «злодзеямі ў законе» надаючы перавагу службе ў паліцыі. Паліцыя атрымала вялікі заробак, шмат ільготаў і, як следства, яе перасталі цікавіць хабары. Спачатку было вельмі дзіўна, паколькі раней хабарніцтва ў МУС было звычайнай справай, не кажучы пра поўнае праваое бязмежжа.

Пасля Мішы паліцыя заставалася вельмі паважаным інстытутам у грамадстве, аднак не ў вачах улады. Хапае выпадкаў, калі паліцэйскіх, якія затрымлівалі родных або каханкаў чыноўнікаў, праз нейкі час звальнялі. Важна таксама нагадаць, што пратэсты супраць Саакашвілі падтрымаў вельмі добра арганізаваны грузінскі крыміналітэт. Не дарма адным з першых крокаў новай улады стала амністыя для злачынцаў аж да вызвалення вядомых нармадылераў. Гэта, дарэчы, кепска паўплывала на крымінальную статыстыку. Паступова вяртаюцца часы, калі ўначы лепш не выходзіць на вуліцу.

***— Іванішвілі ішоў на выбары пад лозунгам паляпшэння адносінаў з Расіяй, а яго галоўны канкурэнт — Саакашвілі — знайшоў прытулак у постмайданаўскай Украіне. Ці існуе пагроза, што Грузія будзе вяртацца пад крыло Масквы?***

— Як вы бачыце, ніякіх асаблівых зменаў у расійска-грузінскіх адносінах за год не было. Хіба што градус напружанасці паміж краінамі не такі моцны. Іванішвілі абяцаў вярнуць даваенныя квоты для грузінскіх прадуктаў на расійскім рынку, аднак гэта таксама аказалася нерэалізаваным перадвыбарчым лозунгам. Агульных маштабных геапалітычных ініцыятыў таксама няма. У прынцыпе, такая мляваць дзеянняў характэрная для ўсіх сфераў працы ўраду. Пасіўнасць МЗС у расійскім напрамку спрабуе выкарыстаць палітык Ніно Бурджанадзэ, якая шмат часу праводзіць у Расіі і публічна прызнала анексію Крыму і г.д. Аднак замеры папулярнасці паказваюць, што прамаскоўская сіла мала запатрабаваная сярод грузін. У Бурджанадзэ ўсяго 8–10 працэнтаў падтрымкі. Абсалютная большасць грузін, і перш за ўсё моладзь, арыентаваная на Еўропу.

***— Ці сочаць у Грузіі за палітычнай кар'ерай Саакашвілі ва Украіне, і наколькі магчымы варыянт вяртання яго на радзіму? Як людзі ставяцца да такога сцэнару?***

— У Саакашвілі, або, хутчэй, у яго прыхільнікаў, захаваліся медыйныя рэсурсы, якія рэгулярна інфармуюць аб тым, што робіць ва Украіне былы прэзідэнт. У дадатак ён падтрымлівае сталыя кантакты са сваёй партыяй «Нацыянальны рух». Сам ён кажа, што вернецца, калі гэтага будзе патрабаваць грузінскі народ. Што тычыцца простых грузін, то нават пры ўсіх правалах курсу «Грузінскай мары», вяртанне Саакашвілі падтрымліваюць не ўсе. Баяцца, што ён і яго аднадумцы пачнуць помсціць.

***— Калі падарожнічаць па Грузіі, можна пабачыць гатэльныя комплексы, аўтатрасы, шпіталі, якія «пабудаваў Міша». Гэта дасягненні, якія так ці інакш выглядаюць лепшай, а галоўнае — рэальнай альтэрнатывай цяперашняму «застою». Хіба ўжо гэтага не дастаткова, каб нацыяналы перамаглі ў наступным годзе?***

— Нацыяналы могуць перамагчы за кошт міфу пра Саакашвілі, плюс, натуральна, за кошт пратэстнага галасавання. Аднак гульня будзе больш складанай, паколькі ніхто так проста аддаваць уладу не збіраецца. Напрыклад, апошнім часам з экранаў не сыходзіць асоба былога міністра абароны ў кабінеце «Грузінскай мары», які пайшоў у адстаўку з-за флірту Іванішвілі з Масквой. Ён выглядае як ідэальная фігура для таго, каб гуляць на запытах большасці грузінаў, будучы адначасова і супраць «Грузінскай мары», і супраць Мішы. На маю думку, хутка мы пабачым, як пад яго будзе ствараецца нейкая новая палітычная сіла.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У Пуціна застаўся яшчэ адзін шанец — скарыстацца ўнутрыпалітычнай кухняй Беларусі. 11 кастрычніка — выбары прэзідэнта. Што Расія і зрабіла — як мінімум двое з чатырох кандыдатаў у прэзідэнты — адвачна прарасійскія. А за арганізацыяй, якая вылучыла «дэмакратычнага кандыдата», яшчэ з 2010 патыхае расійскімі грашыма і цягнецца шлейф незразумелых крыніц фінансавання. Натуральна, Лукашэнка гэта бачыць. І рыхтуецца. У тым ліку, нейтралізуючы патэнцыйных шэрых кардыналаў з сумежнай дзяржавы. Гэта і арышты бізнесоўцаў, звязаных з Масквой. І дастаткова цікавая заява КДБ аб затрыманні шпіёна, які працаваў «не на захад».

**«Хвиля» (Украіна)**

Перспектыва дэмакратычных пераўтварэнняў і рэформаў не такая прываблівая ў свядомасці выбаршчыкаў перад страхам паўтарэння ўкраінскіх падзей. Аднак і пры такім раскладзе Лукашэнку не патрэбныя адкрытыя дыскусіі, нават і з часовымі апанентамі, якімі на гэтых выбарах выступаюць Караткевіч, Улаховіч і Гайдукевіч. Па-першае, таму, што за больш чым два дзясяткі гадоў сваёй улады беларускі кіраўнік прывык выступаць з пазіцыі сілы, калі суразмоўцы пазбаўленыя магчымасці пярэчыць. У дэбатах жа яму давялося б адказваць на нязручныя пытанні. А па-другое, і гэта, мабыць, галоўнае, — хваліцца няма чым. Эканоміка ў глыбокім крызісе, выкліканым не толькі знешнімі прычынамі, але і недахопамі кіравання. Праграма ж прэзідэнта Лукашэнкі ў асноўным сканцэнтраваная на новых абяцаннях беларусам міру і парадку выключна пры ўмове, калі ён застанецца прэзідэнтам яшчэ 5 гадоў.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Расія глядзіць на Беларусь праз тую ж прызму, што і на Украіну, — погляд на свет, уласцівы выключна Маскве: гэта частка былой імперыі, якую не варта далёка ад сябе адпускаць і якая не можа паднесці такіх сюрпрызаў, як унутраная дэмакратыя, незалежная знешняя палітыка і здаровая эканамічная стратэгія. У выпадку Беларусі гэты ланцужок вельмі кароткі. Лукашэнка, які жыве з сур'ёзнай залежнасці ад субсідый і пазык Расіі, гатовы прамяняць суверэнітэт на даўгавечнасць свайго кіравання, нават калі гэта патрабуе адрачэння ад непасрэдных нацыянальных інтарэсаў і доўгатэрміновых перспектыў Беларусі. Тым не менш, з моманту анексіі Крыму беларускі прэзідэнт ступае больш асцярожна. Ён стараецца паступова нармалізаваць адносіны з Захадам, адначасова з гэтым адчайна спрабуючы не даць Пуціну ніякіх падставаў сумнявацца ў сваёй лаяльнасці.

**«Forbes» (ЗША)**

Лукашэнка рыхтуе малодшага сына да ролі «пераемніка». Аўтарытарны лідар прывёў свайго 11-гадовага сына на Генеральную Асамблею ААН, каб той на ўласныя вочы ўбачыў тонкасці міжнароднай дыпламатыі.

**«The Guardian» (Вялікабрытанія)**

Выступленні Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі на Генасамблеі ААН былі абсалютна ідэнтычныя. Абодва выступы грунтаваліся на тэорыі змоў, на тым, што ёсць краіна, якая навязвае астатняму свету сваё бачанне, і гэта недапушчальна. Упэўнены, што абодва выступы былі калі не напісаны, то ўзгоднены ў Крамлі. Украінская ўлада заігрывае з Лукашэнкам, аднак яго заявы пра тое, што ён не дапусціць агрэсіі ў бок Украіны — гэта проста словы. Лукашэнка паказаў, што ён больш на баку Пуціна, чым цывілізаванага свету.

**«Politeka» (Украіна)**

Супрацьстаянне Украіны і Расіі адбываецца не толькі ў ваеннай і ідэалагічнай сферы, але ахапіла і практычна ўсе галіны эканомікі. Пакутуюць ад гэтага і ўкраінцы, і расіяне, а выйграюць беларусы. Пасля пачатку ўкраінскага канфлікту Беларусь умудрылася павысіць свой міжнародны статус, і нават пачаць імпартаваць ківі.

**«Корреспондент» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЕНГРЫЯ. Памёр вядомы дысідэнт

Ва ўзросце 93-х гадоў пайшоў з жыцця Арпад Гёнц, першы ў венгерскай гісторыі дэмакратычна абраны прэзідэнт краіны. Гёнц быў незвычайнай фігурай з цікавай біяграфіяй. Дастаткова сказаць, што пасля здушэння Венгерскага паўстання 1956 года яго асудзілі на смяротнае пакаранне. Не дапамог нават той факт, што ў часы Другой сусветнай вайны, яшчэ юнаком, ён адмовіўся служыць у прагітлерайскім венгерскім войску і шукаў кантакты з супраціваў. Неўкім чынам смяротнае пакаранне ў 1956-м яму замянілі на турэмны тэрмін, які скончыўся ў 1963-м. Тады дзеля нармалізацыі сітуацыі рэжым даў амністыю 2000 удзельнікам паўстання. Арпад Гёнц адразу пасля вызвалення пайшоў у дысідэнты, каб у 1990-м, пасля краху камунізму, адразу стаць прэзідэнтам. Ён заставаўся на пасадзе прэзідэнта да 2000 года і лічыцца адным з сімвалаў трансфармацыі краіны. Нягледзячы на тое, што ліберальныя ідэі, якія падзяляў Арпад Гёнц, цяпер мала запатрабаваныя венграмі, ён застаецца самым папулярным посткамуністычным палітыкам.

**Паводле чэшскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Татальная зачыстка апазіцыі

Пад прэс рэпрэсій у Таджыкістане патрапілі ўсе, хто мае нейкую сувязь з забароненай Партыяй ісламскага адраджэння. ПІАТ — гэта партыя-ўнікум на тэрыторыі СНД, хаця б таму, што гэта адзіная ісламская партыя, зарэгістраваная ў Садружнасці, што ёсць вынікам мірнай дамовы, якая паклала канец грамадзянскай вайне ў Таджыкістане. Нягледзячы на тое, што ПІАТ апошнім часам адыходзіў ад прынцыпаў радыкальнага ісламу і нават выставіў на прэзідэнцкія выбары вельмі эмансіпаваную жанчыну-навукоўца, пазбегнуць рэпрэсій не атрымалася. 1 кастрычніка партыя была забароненая за замах на канстытуцыйны лад. Зараз ідуць арышты актыву, прадстаўнікам якога амаль аўтаматычна выстаўляюцца абвінавачанні ва ўдзеле ў якіх-небудзь забойствах, што мелі месца раней. Ёсць дзве версіі таго, чаму ўлада ўзялася за ПІАТ менавіта зараз. Гэта можа быць выклікана актывізацыяй талібаў у суседнім Афганістане. А магчыма, Таджыкістан рыхтуюць да ўваходу ў Еўразійскі саюз, і наяўнасць легальнай ісламскай партыі выклікае шок у Астаны, якая змагаецца са сваімі ісламістамі. Між тым, частцы лідараў ПІАТ удалося збегчы ў Еўропу. Гэта значыць, што гісторыя партыі яшчэ не закончылася.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Лібералы супраць Фабрыкі зорак

Арыгінальна пачаў свае старшынства Цім Феран, новы лідар брытанскіх ліберал-дэмакратаў. У сваёй першай прамове ён атакаваў найбольш папулярнае ў Вялікабрытаніі шоў «X-Factor», расійскім аналагам якога ёсць «Фабрыка зорак». «X-Factor» — вельмі папулярная праграма на Альбіёне, дзе яе рэгулярна глядзяць каля 7–9 мільёнаў чалавек. На думку Ферана, шоў вельмі брудныя. У выпадку вяртання ў склад ураду, Феран паставіць пытанне аб рэформах тэлеканалаў, якія працуюць на моладзевую аўдыторыю. Цяжка сказаць, што палітыка так моцна ўразіла ў шоу, якое, дарэчы, даўно крытыкуюць па ўсіх напрамках. Адзіны магчымы варыянт — спроба прыцягнуць інтарэс да партыі з боку моладзевай аўдыторыі. Зараз ліберал-дэмакратам патрэбны новыя твары, паколькі гэта класічная партыя становіцца маргінальнай.

**Паводле брытанкай прэсы**

### УКРАІНА. Данбасу пагражае анафема?

Стала вядома, Што Міністэрства культуры Украіны папросіць Украінскую праваслаўную царкву Маскоўскага патрыярхату (УПЦ МП) перанесці цэнтры чатырох дыяцэзій, якія знаходзяцца ў Данбасе, на падкантрольныя Кіеву тэрыторыі. На думку ўкраінскай улады, рэакцыя УПЦ МП дазволіць нарэшце выявіць адносіны УПЦ МП да расійска-ўкраінскай вайны. УПЦ МП — сапраўды ніяк не праяўляе падтрымкі курсу постмайданаўскага рэжыму. Часам нават служкі УПЦ МП фігуравалі ў крымінальных справах за падтрымку сепаратыстаў. На думку Мінкульта, цяпер у мітрапаліта Ануфрыя (кіраўнік царквы) ёсць шанец для рэабілітацыі. Эксперты лічаць, што ініцыятыва ўлады не будзе мець сур'ёзных наступстваў. УПЦ МП знойдзе нейкую прычыну праігнараваць заклік. Пакуль менавіта так і адбываецца. У сваіх першых каментарах прадстаўнікі УПЦ МП самі абвінавацілі Мінкульт у здрадзе. Маўляў, толькі здраднікі могуць заклікаць Украінскую царкву пайсці з тэрыторый, якія фармальна належыць Украіне. Учынак Мінкульта таксама можа быць звязаны з правалам чарговай спробы аб'яднання ўкраінскіх праваслаўных цэркваў. 4 кастрычніка Украінская Праваслаўнай Царква — Кіеўскі Патрыярхат (УПЦ КП) і Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква (УАПЦ) зноў не здолелі знайсці паразуменне, што дазваляе УПЦ МП далей заставацца самай буйной украінскай праваслаўнай канфесіяй.

**Паводле расійскай і ўкраінкай прэсы**



# Замах на Кітай

Алег НОВІКАЎ

**5 кастрычніка нарэшце была заключаная гістарычная дамова пра Трансціхаакіянскае партнёрства (TPP). У Кітаі гэтую дамову лічаць геапалітычнай змовай супраць Пекіна. Некаторыя эксперты кажуць, што TPP робіць сутыкненне паміж КНР і ЗША непазбежным.**

Напэўна, пасля стварэння Паўночна-амерыканскай вольнай гандлёвай зоны (NAFTA) у 1999 годзе, гэта — самы буйны міжнацыянальны праект аб змяншэнні мытных бар'ераў і сумесных правілах гандлю. Калі верыць Бараку Абаме, які асабіста прадставіў TPP, пасля 5 кастрычніка 40 працэнтаў сусветнай эканомікі будзе жыць паводле правіл гэтай арганізацыі. Для даведкі: на старце працы TPP яго сябрамі былі Аўстралія, Бруней, Канада, Чылі, Малайзія, Мексіка, Новая Зеландыя, Перу, Сінгапур, ЗША, В'етнам. На падыходзе — Паўднёвая Карэя, Тайвань, Філіпіны і Калумбія.

Шырокая геаграфія праекту — не адзінае, што робіць TPP унікальным. Спецыфіка яго дакументаў — абавязак удзельнікаў паважаць правы працоўных у краінах-сябрах праекту і абараняць навакольле. Гэта, дарэчы, не беспадстаўныя абяцанкі. Каб стаць сябрамі TPP, В'етнам і Малайзія пагадзіліся адаптаваць свае працоўнае заканадаўства пад патрабаванні Міжнароднай працоўнай арганізацыі. В'етнамскі пралетарыят нават атрымае нябачанае раней права — стварваць прафсаюзы. Юрысты таксама адзначаюць, што ў дакументах TPP моцна прапісаны механізм пакарання за парушэнне правіл аб'яднання.

З улікам усяго сказанага, адміністрацыя Абамы разглядае падпісанне дамовы як адно з самых вялікіх сваіх дасягненняў, хаця праца над праектам пачалася яшчэ да прыходу дэмакратаў у Белы дом. Аднак асноўны блок давялося выконваць менавіта дэмакратам. У 2010–2012 гадах яны правялі папярэднія кансультацыі. Што дазволіла з 2012-га пачаць працу над асноўнымі дакументамі.

Зусім па-іншаму ацэньваюць падпісанне гэтай дамовы ў КНР. Мясцовыя каментатары называюць TPP спробай перахапіць у Кітая эканамічную ініцыятыву ў Ціхаакіянскім рэгіёне і ледзь не адкрытым геапалітычным выклікам на адрас Кітаю. У сваёй перадавіцы, прысвечанай TPP, орган кітайскай кампартыі «Жэньмінь жыбаа» піша, што сапраўднымі матывамі стварэння TPP для Белага дому ёсць «надзея анімаваць амерыканскую эканоміку і праз гандлёвыя сувязі навязаць удзельнікам арганізацыі свой палітычны курс». «Канчатковая мэта палітыкі амерыканцаў — утрымаць глабальнае лідарства праз кантроль над сусветнай эканомікай», — заключае выданне. А выданне кітайскага камсамолу наўпрост піша, што TPP — «эканамічная атака Штатаў на Кітай». Іншы кітайскі афіцыйны каментатар адзначае: «Амерыка жадае разбурыць Кітай як сусветную фабрыку, яго магчымасці і, самае галоўнае, ідэю кітайскай мадэлі развіцця».

**Левыя канадскія партыі абяцаюць у выпадку сваёй перамогі на федэральных выбарах 19 кастрычніка вывесці Канаду са складу TPP з-за непразрыстасці працэсу перамоваў наконт яго стварэння**

Па той бок акіяна вялікі рэзананс сярод экспертаў выклікаў артыкул у часопісе «The Atlantic» гарвардскага прафесара Грэхама Элісана, у якім ён заключыў, што вайна паміж КНР і ЗША непазбежная. Маўляў, калі Вашынгтон не пачне варушыцца, праз 10 гадоў Кітай стане больш эканамічна развітай краінай з усімі наступствамі для сусветнай гегемоніі Вашынгтона. «Кастрычніцкія тэзісы» Элісана выклікалі шмат дэбатаў. У Элісана хапае апанентаў. Яны разлічылі, што Кітай можа дабіцца перавагі толькі ў выпадку, калі яго ВУП штогод на працягу дзесяцігоддзя будзе расці на 7 працэнтаў. Аднак нядаўні фондавы крызіс у КНР падкасіў тэмпы росту ВУП да 4 працэнтаў.

У прынцыпе, хапае недаверу і наконт перспектыў TPP. Некаторыя эксперты звяртаюць увагу на наяўнасць у краінах — удзельніцах ініцыятывы моцнага лагеру праціўнікаў эканамічнай інтэграцыі як мінімум у такім фармаце. Напрыклад, у Японіі супраць вольнай зоны выступае аграрнае лобі і аўтамабільныя канцэрны, якія баяцца за свой рынак у Азіі і Амерыцы. У Аўстраліі асцярожнасць да TPP выклікае канфлікт паміж табачнай кампаніяй «Philip Morris» і аўстралійскім урадам, які намагаецца абмежаваць рэкламу табаку. «Philip Morris», рэгіянальнае бюро якога знаходзіцца ў Ганконгу, спасылаецца менавіта на розныя міжнародныя пагадненні, згодна з якімі Канбера павінна праводзіць палітку дэрэгуляцыі рынку на карысць карпарацый. Яшчэ ў 2013 годзе нобелеўскі лаўрэат па эканоміцы Ёзэф Штыгліц (Joseph Stiglitz) папярэдзіў, што TPP выклікае новую хвалю беспрацоўя ў ЗША з-за пераносу цэнтраў вытворчасці на перыферыю.

Нарэшце, левыя канадскія партыі абяцаюць у выпадку сваёй перамогі на федэральных выбарах 19 кастрычніка вывесці Канаду са складу TPP з-за непразрыстасці працэсу перамоваў наконт яго стварэння. Менавіта кулуарнасць перамоваў наконт стварэння арганізацыі найбольш часта ўзгадваюць праціўнікі TPP.

Пакуль праект не стаў працаваць напоўніцу, напэўна, рана казаць пра яго перспектывы, а таксама пра пагрозы, якія ён нясе для кітайска-амерыканскіх адносін. У любым выпадку, відавочна, што старт TPP абвострыць дэбаты наконт стварэння TTIP — аналагічнай вольнай гандлёвай зоны паміж ЗША і Еўропай. Планавалася, што ўсе агульныя прававыя аспекты будуць узгодненыя яшчэ ўлетку, каб пасля перайсці да наступнага кроку — перадаць праект на разгляд нацыянальным урадам і парламентам. Аднак сабатаж аматараў суверэнітэту, украінскі і блізкаўсходні крызісы ўнеслі свае папраўкі ў гэты план.

# Партнёрства памерла — няхай жыве Партнёрства!

Алег НОВІКАЎ



**Азербайджан пачаў працэс выхаду з «Усходняга партнёрства». Наступствам стане паскарэнне пошуку новага фармату стратэгічнага супрацоўніцтва паміж Еўрасаюзам і постсавецкімі краінамі.**

Увогуле, гэта не першая пагроза азербайджанцаў пакінуць шэрагі «Усходняга партнёрства» (УП). Так, у 2009 годзе чыноўнікі Аліева адмовіліся ад удзелу ў адной з праграм УП з-за прысутнасці ў ёй армян. Справа зайшла так далёка, што азербайджанцы паставілі пытанне вельмі катэгарычна: калі Арменія не прызнае юрысдыкцыю Азербайджана над Карабахам, нагі Азербайджана ва Усходнім партнёрстве больш не будзе. Нейкім чынам канфлікт тады замялі.

Аднак на гэты раз усё выглядае больш сур'ёзна. Яшчэ 14 верасня парламент Азербайджана дэклараваў пачатак працэдуры прыпынення сяброўства ў Еўранэсце (міжпарламенцкая асамблея пры «Усходнім партнёрстве») і аднachасова рэкамендаваў ураду не толькі перагледзець пытанне аб удзеле ў праграме ЕС «Усходняе партнёрства», аднак і ўвесці санкцыі супраць еўрапейцаў, якія выступаюць з «адкрыта антыазербайджанскіх пазіцый». Фонам для такіх заяваў стала прапагандысцкая кампанія ў азербайджанскіх медыя. Мясцовы афіцыёз нават абвінаваціў Еўропу ў спробе імпарту «арабскай вясны» ў Азербайджан 2011 годзе.

Спіраль канфрантацыі пачала раскручвацца пасля 10 верасня, калі ў Еўрапарламенце прынялі рэзалюцыю пра парушэнні правоў чалавека ў Азербайджане. У дакуменце, у прыватнасці, прысутнічае заклік да неадкладнага і безумоўнага вызвалення з турмы ўсіх палітычных зняволеных, праваабаронцаў, журналістаў і іншых актывістаў грамадзянскай супольнасці.

Падобную крытыку на адрас рэжыму Аліева на Захадзе дазвалялі сабе і раней. Аднак пры гэтым усё было ў рамках узаемнага нефармальнага пакту. Лічылася, што праблема правоў чалавека на берагах Каспія менш важная, чым тэма стратэгічнага супрацоўніцтва, што ўключае, натуральна, доступ ЕС да бакінскай нафты.

10 верасня гэта няпісанае правіла было парушана. Еўрапарламентары праштурхнулі ў фінальны варыянт праекту рэзалюцыі пункт з патрабаваннем да Еўракамісіі «прыпыніць перамовы па пагадненні аб стратэгічным партнёрстве з Азербайджанам да таго часу, пакуль урад не зробіць канкрэтныя крокі ў кірунку павагі ўніверсальных правоў чалавека». А вішанькай на торце стала пагроза асабістых санкцый супраць азербайджанскіх вертыкальшчыкаў, якія засвяціліся ў пераследзе апазіцыі.

Калі меркаваць па прэсе, такі паварот і выклікаў істэрычную рэакцыю ў Баку. Высокаму градусу псіхозу ў Баку відавочна спрыяў і той факт, што літаральна месяц таму Азербайджан прымаў першыя Еўрапейскія гульні, якія наведала шмат еўрапалітыкаў першага рангу. Безумоўна, Еўраалімпіяда, якая каштавала Азербайджану каля мільярда долараў, была таксама сімвалічным хабарам еўрапейцам за тое, каб яны ў будучым ахвотней заплюшчвалі вочы на сумны маніторынг парушэння грамадзянскіх свабодаў у краіне. Аднак 10 верасня стала зразумела, што грошы па-сутнасці былі выдаткаваныя дарма.

**10 верасня Еўрапейскі парламент прыняў рэзалюцыю пра парушэнні правоў чалавека ў Азербайджане**

Між тым канфлікт па лініі Баку—Брусэль набывае больш глабальны маштаб. Турэцкая прэса баіцца, што сыход Азербайджана з УП стане лепшым падарункам мясцовым праіранскім ісламістам. Адно з выданняў адзначае: «Будучы адзінай мусульманскай краінай на ўсходняй мяжы Еўрапейскага саюза, Азербайджан даказаў, што ён з'яўляецца часткай сям'і ЕС, пастаянна садзейнічаючы прасоўванню секулярызму, у тым ліку праз павагу да абароны правоў меншасцяў. Акрамя таго, Азербайджан праяўляе сваю прыхільнасць да каштоўнасцяў ЕС, рэкламуючы еўрапейскую культуру і спорт, арганізаваўшы конкурс «Еўрабачанне» і Першыя еўрапейскія гульні. Тысячы азербайджанскіх студэнтаў спансуюцца ўрадам, каб навучацца ў ЕС, што з'яўляецца яшчэ адным сведчаннем шчырага падыходу да Брусэлю».

Затое ў расійскай прэсе пануе эйфарыя. На думку маскоўскіх аналітыкаў, калізія ЕС—Азербайджан дазволіць уцягнуць Аліева ў арбіту ўплыву Крамля. «Сістэма ўзаемных санкцый Расіі і Захаду паставіла перад Масквой шэраг складаных пытанняў далейшай траекторыі развіцця эканомікі. Улічваючы дэфіцыт стратэгічных партнёраў, Расія імкнецца стварыць вакол сябе пояс дружалюбных дзяржаў у рамках розных мадэляў: ад інтэграцыі ў палітычныя саюзы да цеснай эканамічнай кааперацыі без палітычнага падтэксту. Таму ролю такіх гульцоў, як Азербайджан, для Расіі, цяжка пераацаніць», — піша адно з пуцінскіх выданняў.

Нарэшце ўсе згодныя, што вынікам абвастрэння адносін паміж Баку і Брусэлем стане канчатковы крызіс цяперашняй формулы ініцыятывы «Усходняе партнёрства». У выпадку выхаду Азербайджана з праграмы ЕС «Усходняе партнёрства» гэта праграма страціць ключавы кампанент», — мяркуе прэзідэнт Чэхіі Мілаш Земан.

З іншага боку, пра крызіс УП кажуць даўно, і новы фармат быў даўно неабходны. Тое, што адбываецца ў Баку, паскорыць агонію старой мадэлі і, магчыма, дазволіць надаць праекту другое дыханне, удзельнікам якога застанецца і Азербайджан. Больш дакладна пра контуры новай мадэлі УП мы даведаемся 17 лістапада. Паводле агенцтва «Reuters», у гэты дзень будуць апублікаваныя канкрэтныя прапановы наконт рэформы «Усходняга партнёрства».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Пад дахам Адміністрацыі казахскага прэзідэнта 4 кастрычніка ў Астане прайшоў другі раунд сустрэчы ўмеранай фракцыі сірыйскіх апазіцыянераў. Па выніках сустрэчы быў прыняты дакумент — «Ініцыятыва «Астана», у якім асуджаецца тэрарызм радыкальных ісламістаў і ўтрымліваецца заклік да правядзення дэмакратычных парламенцкіх выбараў у наступным годзе. Удзельнікі сустрэчы таксама прапанавалі Нурсултану выступіць пасярэднікам у перамовах з сірыйскім прэзідэнтам Башарам Асадам. Экспертны клуб Казахстана і краін СНД вельмі асцярожна каментуе вынікі сустрэчы. Ёсць думка, што Елбасы проста раўнуе да Лукашэнкі, які за кошт надання пляцоўкі для перамоваў паміж Кіевам і сепаратыстамі, моцна палепшыў свой імідж на Захадзе. Маўляў Назарбаеў хацеў бы паўтарыць падобны фокус, толькі за кошту флірту з сірыйскімі апазіцыянерамі. Аднак у поспех «Ініцыятывы «Астана» большасць каментатараў не верыць. Асноўны касцяк сірыйскай умеранай апазіцыі — дыяспара, што жыве ў Еўропе і слаба ўплывае на сітуацыю ўнутры краіны. Нягледзячы на скептычны тон каментатараў, казахскія афіцыйныя СМІ завочна абвясцілі Елбасы вялікім пацыфістам, вартым Нобелеўскай прэміі міру. Таксама з'явілася інфармацыя пра запланаваны візіт Назарбаева ў Сірыю ў лістападзе гэтага года.

### Барбара Навацка



Саракагадовая Навацка папоўніла спіс жанчын, якія ўзначальваюць выбарчыя спісы польскіх партый на выбарах 19 кастрычніка. Яна абраная лідарам ад кааліцыі «Аб'яднаная Левая», якая ўключае шэраг мясцовых левых партый — экс-камуністаў, «Зялёных», «Рух Палікота», сацыялістаў. З улікам таго, што «Аб'яднаная Левая» займае трэцяе месца (9 працэнтаў) у рэйтынгах папулярнасці, старт Навацкай як лідара кааліцыі аказаўся вельмі добрым. З улікам таго, што ніводная з вядучых партый не набірае патрэбнай для фармавання ўраду большасці, не выключана, што мы можам пабачыць яе і ў постаці міністра. Хаця нават трэцяе месца для польскіх левых будзе вялікай перамогай пасля серыі правалаў. Застаецца сказаць, што Навацка па прафесіі інфарматык, а імя сабе зрабіла як актывіст жаночай ініцыятывы і адзін з лідараў леваліберальнай партыі «Рух Палікота».

### Крысціна Кіршнер



Прэзідэнт Аргенціны выклікала на сябе шквал крытыкі мясцовых патрыётаў пасля выступу на Генеральнай асамблеі ААН. Патрыятычную грамадскасць раз'юшыла тое, што гарант ніводнага разу не ўзгадала пра праблему Фальклендаў (Мальвінаў) — архіпелагу, на які прэтэндуюць Аргенціна і Вялікабрытанія. Гэта ўвогуле першы выпадак, калі Кіршнер, выступаючы з трыбуны ААН, не нагадвае сусветнаму грамадству пра неабходнасць вярнуць Мальвіны (аргенцінцы называюць іх менавіта Мальвінамі). Увогуле, Генасамблея ААН разглядаецца ў патрыятычным аргенцінскім дыскурсе як важны сродак, каб надаць пытанню глабальнае вымярэнне. Але на гэты раз Кіршнер атакавала спонсараў сусветнага тэрарызму. Пакуль аргенцінцы абураюцца, брытанская правая прэса захапляецца яе выступам. На думку брытанскіх каментатараў, адсутнасць крытыкі Вялікабрытаніі тлумачыцца тым, што Кіршнер хутка пакідае пасаду прэзідэнта, якую яна займала два тэрміны. Такім чынам, ёй не трэба больш ламаць камедыю наконт магчымасці вяртання архіпелага пад юрысдыкцыю Буэнас-Айрэса.


Інжынерныя працы Войска Польскага. Заходняя Беларусь, 1939 г.


Чальцы Секцыі грамадзянскай падрыхтоўкі ў Пінску, 1937 г.



Жаўнеры ля плакату аб мабілізацыі. Жнівень 1939 года

# Партызаны Другой Рэчы Паспалітай


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У пачатку 1920-х гадоў у Другой Рэчы Паспалітай быў створаны Грамадзянскі камітэт абароны, у склад якога ўваходзіла 5 тысяч чалавек, што ў выпадку вайны павінны былі стварыць партызанскія атрады па 100 чалавек у кожным.**

## Дыверсійная дзейнасць

У другой палове 1920-х гадоў польскія вайсковыя ўлады больш увагі сталі надаваць падрыхтоўцы дыверсійнай дзейнасці на тэрыторыі магчымага ворага. Другі аддзел польскага генштаба стварыў некалькі дзясяткаў дыверсійных груп. Як узгадвае ў сваіх успамінах, напісаных у сакавіку 1940 года ў Камп'ене маёр Войска Польскага Уладзімір Дамброўскі, большасць з кіраўнікоў гэтых груп прайшлі выдатную дыверсійную спецпадрыхтоўку на польскай тэрыторыі.

Аднак у 1930 годзе ў раёне Барысава АДПУ і вайсковай выведцы РСЧА ўдалося выйсці на след аднаго з такіх атрадаў, а пазней знішчыць усю дыверсійную сетку. У выніку Другі аддзел Генштаба Войска Польскага вымушаны быў адмовіцца ад падрыхтоўкі дыверсійных атрадаў для дзейнасці на савецкай тэрыторыі і сканцэнтраваў увагу на арганізацыі абароны ўласнай тэрыторыі.

Вясной 1929 года ў складзе Другога аддзелу Генеральнага штабу Войска Польскага (выведкі) з'явілася новая структура — Экспазітура №2. У яе складзе дзейнічалі грамадска-палітычны аддзел, а таксама секцыі, якія займаліся краінамі Балтыі (Латвія, Эстонія), Расіяй (у тым ліку і БССР), Літвой (у тым ліку Усходняй Прусіяй і вольным горадам Данцыгам), Германіяй і заходнімі краінамі. Акрамя гэтага, асобная група польскіх спецыялістаў займалася вывучэннем нацыянальнага пытання.

## «Калі заўтра вайна»

У 1930-х гадах найбольшую ўвагу спецыялісты гэтай арганізацыі надавалі працы аддзела «Расія», які падзяляўся на дзве падгрупы: XIII-а (Віленскае, Наваградскае, Палескае ваяводствы) і XIII-b (Валынскае, Тарнопальскае і Станіславаўскае ваяводствы). Менавіта гэтыя структуры і займаліся падрыхтоўкай партызанскіх атрадаў на выпадак магчымай вайны з СССР. Галоўная стаўка рабілася на чальцоў Стралецкага хаўрусу (Związek Strzelecki), у склад якога ўваходзілі як жыхары мястэчак, так і вёсак. З 1930 года тэхнічны аддзел пачаў распрацоўку аб'ектаў на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў, якія падчас ваенных дзеянняў можна было б выкарыстоўваць як базы ці склады зброі для партызан.

Таксама складаўся спіс аб'ектаў (электрастанцый, мастоў, складоў, чыгуначных ліній), якія павінны былі быць знішчаныя пры адступленні Войска Польскага з заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх тэрыторый. Уся гэтая інфармацыя перадавалася на месцы, дзе з ёй знаёміліся кіраўнікі будучых партызанскіх атрадаў. Аднак грошай (у месяц выдзялялася 4400 злотых «камандзіровачных», а таксама каля 9000 злотых на неабходныя тэхнічныя матэрыялы) не хапіла на правядзенне глыбокага і ўсебаковага аналізу, таму замест паўнавартаснай камісіі над распрацоўкай мясцовасці для будучых партызанскіх дзеянняў працавала некалькі чалавек, з якіх адзін — афіцэр, які прайшоў дыверсійную падрыхтоўку, а другі быў яго памочнікам (звычайна радавы ці малодшы камандзір). Менавіта гэтыя «двойкі» павінны былі скласці падрабязныя інжынерныя планы аб'ектаў, якія падлягалі знішчэнню, разлічыць колькасць выбухоўкі, неабходнай для гэтага, а таксама знайсці месцы для магчымых партызанскіх баз.

У красавіку 1930 года Мабілізацыйнае бюро Міністэрства вайсковых спраў Польшчы выдала загад, які дазволіў Другому аддзелу адбіраць з навабранцаў патрэбных для выведкі асоб. Такое ж права атрымала і Экспазітура №2. Такім чынам, выведка змагла адбіраць кадры, патрэбныя для арганізацыі магчымых партызанска-дыверсійных груп. Акрамя гэтага, працягвалася



супраца з рознымі грамадскімі структурамі, якія праводзілі падрыхтоўку моладзі да службы ў Войску Польскім. Галоўным цэнтрам падрыхтоўкі партызан Другой Рэчы Паспалітай стаў «Хаўрус былых удзельнікаў нацыянальных паўстанняў», які меў свае прадстаўніцтвы ва ўсходніх ваяводствах.

Пазней польскія выведнікі сталі выкарыстоўваць і «Стралецкі хаўрус». Другі аддзел Генштабу Войска Польскага заключыў пагадненне з гэтай арганізацыяй, у адпаведнасці з якім з 1 ліпеня 1930 года ў кіраўніцтве «Хаўрусу» ў Вільне (а ў 1933 годзе ў Брэсце на Бугу) былі ўведзены пасады «інспектараў». Гэта былі афіцэры-выведнікі, якія займаліся падборам кадраў для будучай дыверсійнай дзейнасці. Дарэчы, забягаючы наперад, варта адзначыць, што пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР у верасні 1939 года НКУС сярод іншых катэгорый польскіх грамадзян жорстка рэпрэсаваў былых сяброў гэтай арганізацыі. Шмат з іх трапілі ў мінскую «Валадарку», а пазней, відавочна, апынуліся ў сумнавядомым Беларускім катынскім спісе.

## Праца з моладдзю

Вялікую ўвагу Экспазітура №2 надавала супрацы з Хаўрусам польскага харцэрства. У рамках гэтай арганізацыі з 1932 годзе была створана сакрэтная арганізацыя «Секцыя грамадзянскай падрыхтоўкі» (СГП), у задачу якой уваходзіла «падрыхтоўка моладзі да выканання спецыяльных заданняў». Пад апошнім і мелася на ўвазе партызанская дзейнасць у выпадку вайны з усходнім суседам. У ліпені 1933 года СГП атрымала дадатковае заданне: супрацьстаяць антыўрадавай дзейнасці нацыянальных меншасцяў, а таксама левых і камуністычных арганізацый.

**У Варшаве палічылі, што Польшчы нічога не пагражае з боку СССР, і вырашылі не падтрымліваць прапанову афіцэра выведкі**

Хутка з'явіліся спецыяльныя акругі гэтай арганізацыі са сваімі задачамі. Акруга «Міхал» (Маладзечна) займалася барацьбой з антыдзяржаўнай прапагандай. Акруга «Людвік» (Ліда) — падрыхтоўкай мясцовага насельніцтва да партызанскай барацьбы ва ўмовах вайны. Акругі «Баляслаў» (Баранавічы), «Лазар» (Лунінец), «Стэфан» (Сарны) і «Рышард» (Роўна) адказвалі за «развіццё польскасці ва ўсходніх ваяводствах». Нарэшце, акруга «Тадэвуш» (Тарнопаль) адказвала за «супрацу з «палешукамі» і супрацьдзеянне ўкраінскім нацыяналістычным арганізацыям». Сябры СГП наведвалі заняткі па ідэалогіі, а таксама вайсковыя зборы. Пры гэтым, асаблівы націск рабіўся на дыверсійную дзейнасць у пазафрантавых умовах.

## З чым сустрэлі Другую сусветную вайну

У канцы 1930-х гадоў Варшава перастае цікавіцца магчымым усходнім тэатрам вайсковых дзеянняў і ўсю ўвагу пераносіць на Захад. У канцы 1938 года кіраўнік аддзелу «Усход» Экспазітуры №2, узгаданы вышэй маёр Уладзімір Дамброўскі, стварыў арганізацыю «Крэсавыя загоншчыкі» (КЗ). Звязана гэта было з разуменнем таго, што большасць членаў СГП, па-першае, вядомыя ў грамадстве асобы, а па-другое, яны з'яўляюцца прадстаўнікамі польскай меншасці на тэрыторыі Заходняй Беларусі, і ў выніку вайны савецкія ўлады іх будуць знішчаць у першую чаргу (так яно і было ў верасні 1939 года і пазней. — І.М.).

У сваю чаргу, КЗ павінны былі стаць сакрэтнай глыбока закансп іраванай дыверсійнай арганізацыяй, чальцоў якой ніхто б не ведаў. Аднак для падрыхтоўкі польскіх дыверсантаў на Усходзе ўжо не хапала спецыялістаў, бо большасць з іх працавала на «нямецкім накірунку». Апошні ўдар па падрыхтоўцы польскіх партызан на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў нанеслі мабілізацыйныя мерапрыемствы вясной-летам 1939 года, калі большасць кантынгенту, падрыхтаванага на выпадак вайны з СССР, апынулася ў шэрагах Войска Польскага і «паехала» на Захад.

У чэрвені 1939 года маёр Уладзімір Дамброўскі звярнуўся да кіраўніка Другога аддзелу Генштабу польскага войска з прапановай пакінуць на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў спецыялістаў па арганізацыі дыверсій і вызваліць іх ад мабілізацыі. Таксама афіцэр прасіў перадаць у распараджэнне Экспазітуры №2 неабходную колькасць зброі і іншых, неабходных для арганізацыі партызанскай дзейнасці, рэчаў. Аднак у Варшаве палічылі, што Польшчы нічога не пагражае з боку СССР, і вырашылі не падтрымліваць прапанову афіцэра выведкі.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. А праз 17 дзён пачаўся паход Чырвонай Арміі. Ніякай агульнай арганізацыі польскай партызанска-дыверсійнай дзейнасці на гэтых тэрыторыях ужо не было, таму мы можам казаць толькі аб некаторых выпадках, калі афіцэры Войска Польскага бралі справы ў свае рукі і стваралі падабенства «партызанскага руху».

Так, у Гродна дыпламаваны палкоўнік Багдан Гулевіч здолеў арганізаваць «актыў» і з яго дапамогай падрыхтаваў мясцовых жыхароў да барацьбы супраць бронетанкавых частак РСЧА. Атрад падпаручніка рэзерву Антонія Іглеўскага таксама разгарнуў партызанскую дзейнасць супраць Чырвонай Арміі ў раёне сучаснай беларуска-літоўскай мяжы ўжо ў верасні 1939 года. Нарэшце, свае партызанскія атрады на тэрыторыі Заходняй Беларусі спрабавалі стварыць жаўнеры Корпусу аховы памежжа, а таксама маракі Пінскай рачной флатыліі ВМФ Другой Рэчы Паспалітай.

# Беларускамоўная філуменія з Барысава

Сяргей ЧЫГРЫН

**Тыя, хто займаецца калекцыяніраваннем запалкавых этыкетак ці карабкоў ад запалак, называюць філуменістамі, а калекцыяніраванне этыкетак з карабкоў ад запалак, запалкавых карабкоў, буклетаў (кніжак-запалак) і іншых прадметаў, звязаных з запалкамі, называецца філуменіяй (ад грэчаскага «phileo» — «люблю» і лацінскага «lumen» — «агонь» ці «святло»).**

Сёння філуменія не з’яўляецца распаўсюджаным хобі, як, напрыклад, калекцыяніраванне манет, паштовых марак, паштовак, самавараў, прасаў, але аматары гэтай навукі працягваюць развіваць свае калекцыі.

Аднак я сёння хачу распавесці пра беларускамоўную філуменію, а менавіта пра беларускамоўныя этыкеткі на запалкавых карабках. Тым больш, што вытворчасць запалак на тэрыторыі Беларусі мае даўнюю гісторыю. А першыя прыватныя запалкавыя фабрыкі на тэрыторыі сучаснай Беларусі з’явіліся ў канцы другой паловы XIX стагоддзя. Іншая справа, што этыкеткі на запалкавых карабках тады не былі напісаны на беларускай мове. І толькі ў 1920-х — 1930-х гадах з’явіліся першыя беларускамоўныя запалкі.

У 1901 годзе ў Новабарысаве была заснавана фабрыка «Бярэзіна» Ісідорам Берманам. Яе першая прадукцыя пайшла на экспарт у 1906 годзе. Усе этыкеткі на запалкавых карабках друкаваліся на рускай і польскай мовах, а таксама на англійскай і персідскай. Восенню 1917 года ў Барысаўскі раён прыйшла савецкая ўлада, і «Бярэзіна» была нацыяналізаваная. Потым зноў мянялася ўлада, але запалкавая фабрыка працавала. У 1920 годзе фабрыка ў Новабарысаве атрымала новую назву «Чырвоная Бярэзіна». У гэты час этыкеткі на запалках пачалі з’яўляцца і на беларускай мове. З аднаго боку карабку запалак быў тэкст па-беларуску, з другога — па-руску. Напрыклад, на этыкетках Новабарысаўскай фабрыкі ў 1924–1926 гадах было напісана: «Дзяржаўная серніковая фабрыка «Чырвоная Бярэзіна». БССР ВСНХ. Новабарысаў Беларусь». І намаляваны герб БССР.

У 1926–1929 гадах «Чырвоная Бярэзіна» актыўна пачала выпускаць запалкі з беларускамоўнымі этыкеткамі. На адным баку, напрыклад, было напісана: «Бел. Дзярж.Серніковы трэст. Фабрыка сернічак «Чырвоная Бярэзіна». ВСНГ. Новабарысаў, БССР. Цана 1 1/2 к.». І быў намаляваны караблік, а з іншага боку — зорачкі і чорна-белыя квадрацікі.

Са снежня 1929 года ў Новабарысаве пачала працаваць новая пабудаваная фабрыка, якую назвалі «Пралетарская Перамога». Фабрыка выпускала запалкі з этыкеткамі на рускай і беларускай мовах. Але большасць з іх былі на роднай мове. З 1930 года Беларускае запалкавае аб’яднанне ўпершыню на этыкетках пачало пісаць «Новабарысаў» праз злучок — Н.-Барысаў і Нова-Барысаў.

З 20 па 29 красавіка 1932 года адбыўся IX з’езд прафсаюзаў СССР. Да гэтай падзеі фабрыка «Пралетарская Перамога» выпусціла на беларускай мове дзве памятныя этыкеткі. На адной з іх было напісана: «Ударны выпуск імя 9-га Зьезду Прафсаюзаў. Тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі вырашае ўсё. Ф-ка запалак «Пралет. Перамога» г.Н.-Барысаў. БССР. Цана 2 кап.». На другой змешчаны такі тэкст: «Ударны выпуск імя 9-га Зьезду Прафсаюзаў. СССР. Ударная брыгада сусьветнага пралетарыяту. Ф-ка запалак «Пралет.Перамога» г.Н.-Барысаў. БССР. Цана 2 кап.».

Запалкавая фабрыка «Пралетарская Перамога» ў 1930-я гады выпускала шмат запалак з беларускамоўнымі этыкеткамі. Але ўсе яны былі напісаныя ў бальшавіцкім духу. Напрыклад, на запалках у 1933–1934 гадах было напісана так: «Дэлегату Усесаюзнага злёту ўдарнікаў пільшчыкаў, бракераў і пілатачаў — ад калектыва рабочых ІТР Бярэзінскага камбіната — бальшэвіцкае прывітанне. БССР, Нова-Барысаў».

У 1934 годзе быў забіты сакратар Ленінградскага абкама ВКП (б) Сяргей Кіраў. Пачаліся масавыя рэпрэсіі партыйных і гаспадарчых кіраўнікоў. Гэта кампанія ў СССР называлася «яжоўшчына», па прозвішчу наркама ўнутраных спраў Яжова. Адначасова сотні заводаў і фабрык перайменавалі ў гонар Кірава. Сюды патрапіла і «Пралетарская Перамога», якую перайменавалі ў 1935 годзе ў «Фабрыку імя таварыша Кірава». Фабрыка таварыша Кірава таксама старалася выпускаць




запалкі на беларускай мове з розным савецкім афармленнем і лозунгамі. Хутка з этыкетак запалак знікла слова «таварыш», і фабрыка пачала называцца проста — імя Кірава.



















Пасля Другой сусветнай вайны запалкавая фабрыка імя Кірава таксама не развіталася з роднай мовай. У 1949 годзе прадпрыемства выпусціла вельмі шмат запалак з тэкстамі на карабках на беларускай, украінскай і рускай мовах. Яны былі прысвечаны каларадскаму жуку. На этыкетках быў намаляваны каларадскі жук і напісаны тэкст: «Выяўляйце шкодніка бульбы — каларадскага жука і паведамляйце аграному».

У 1949 годзе выйшлі па-беларуску аформленыя запалкі, прысвечаныя 30-годдзю БССР. У 1950 годзе фабрыка імя Кірава, напрыклад, выпусціла запалкі з малюнкам, на якім быў адлюстраваны танец «Лявоніха».

Пасля 1953 года запалкавая фабрыка імя Кірава (потым гэта будзе фанерна-запалкавы камбінат, цяпер — ААТ «Барысаўдрэў») пачала рэдка звяртацца да беларускай мовы. Але ў 1958 годзе фанерна-запалкавы камбінат у Барысаве выпусціў серыю беларускамоўных этыкетак, прысвечаных 40-годдзю Савецкай Беларусі. У 1964 годзе выйшла серыя беларускамоўных прыгожых этыкетак, прысвечаных 20-годдзю вызвалення Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама серыя беларускіх запалак з нагоды 20-годдзя вызвалення Беларусі.

Беларускамоўных этыкетак заслужыў у 1961 годзе і Чырвоны Крыж БССР — выйшла серыя запалак з нагоды 40-годдзя таварыства Чырвонага Крыжа БССР, а таксама заклікі, каб людзі ўступалі ў члены таварыства Чырвонага Крыжа.

У 1961 годзе Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў некалькі відаў запалак, якія рэкламавалі творы беларускіх літаратараў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Піліпа Пестрака і іншых пісьменнікаў і заклікалі іх купляць праз «Кнігу — поштай». Добрая была ідэя.

Упершыню за ўсю сваю гісторыю існавання камбінат з Барысава адгукнуўся на юбілеі класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Шмат разнастайных беларускамоўных этыкетак на карабках запалак пабачылі свет, прысвечаных 80-годдзю Якуба Коласа, 85-годдзю Янкі Купалы і 90-годдзю Янкі Купалы. На этыкетках былі адлюстраваны партрэты нашых песняроў, іх музеі і мясціны, дзе жылі і пісалі класікі беларускай літаратуры.

У 1970-х — 1990-х гадах, хоць і вельмі рэдка, але беларускае слова трапляла на этыкеткі карабкоў запалак барысаўскага прадпрыемства. А цяпер роднай мовы на прадукцыі ААТ «Барысаўдрэў» амаль не знойдзеш. Некалькі каляровых этыкетак запалак са словамі «Квітней Беларусь!» выйшла з варштату камбіната пару гадоў таму. Але з іншых бакоў карабку тэкст пададзены па-руску.

# «МЫ, БРАТЫ»: глядач не пайшоў

Валярына КУСТАВА

**З кастрычніка кінастужку «Мы, браты» змог убачыць у кінатэатрах шырокі глядач. Змог. Але не захацеў. Першы беларускі блокбастар сустрэлі пустыя кіназалы.**



«Не глядзеў і не пайду, няма чаго ім на мне яшчэ і зарабляць пасля ўсяго», — выказаў мне сваё абурэнне калега з незалежнага тэлеканалу. А я ўсё ж вырашыла трымацца свайго: паглядзець, каб мець уласнае ўражанне. Прычым ішла з жаданнем знайсці ў фільме штосьці, прынамсі, займальнае. Разам са мной і маім спадарожнікам у залі напачатку сеанса было некалькі дзясяткаў гледачоў, напрыканцы сеанса — я адмыслова палічыла — 16 чалавек на вялізны кінатэатр «Масква» ўвечар нядзелі.



## Спачатку плюсы

«Мы, браты» — не самы горшы фантазійны экшн «В» класа. Адно што клас «В» — не каштуе так дорага. Магчыма, аўтары проста клас пераблыталі. Але замова выкананая.

Плюсы ў карціне ёсць, але іх не так і шмат. Тэхнічны бок карціны напраўду быў зроблены добра — работа аператара і пастаноўшчыка, каскадзёраў, прафесійныя тэхнікі трукаў (перавернутыя машыны, спаленыя людзі, выбухі, пагоні — вельмі відовішчна, і, на жаль, у сваёй бальшыні нічым не матываванa), а таксама выдатна спрацаваў грымёр (пульсуючыя вантробы і кавалкі арматуры ў ахвярах пасля выбуху ў мінскім метро былі надзвычайна рэалістычныя і жахалі). Работа рэжысёра Вільяма Дэ Віталя была напраўду прафесійнай, тэхнічна пісьменнай. На тое і быў разлік, Вільям Дэ Віталь — каскадзёр і пастаноўшчык трукаў, які папрацаваў у такіх карцінах, як «Індыяна Джонс», «Пароль Рыба-меч», серыял «Уокер — Тэхаскі Рэйнджар» і многіх іншых. Спаленыя людзі былі праўдападобныя, але драматургічна неапраўданыя. Бо не было адказу на галоўнае пытанне: дзеля чаго? Уразілі нават не столькі выбухі, колькі сэнсавае змесціва таго, што беларускімі гіганцкімі БЕЛАЗамі можна давіць людзей. Сумнеўная рэклама беларускай вытворчасці.

Таксама несумненна можна назваць удачай удзел у фільме Эрыка Робертса — ён без пытанняў сыграў каламутнага гада, аднаго з кіраўнікоў сусветнай змовы — звонку белага і пухнатага, а па-сутнасці — цынічнага і крыху ашалелага ад сваёй перакуленай праўды. Амерыканка з рускімі каранямі Наталі Алам — глядзелася штучна.

У 2013 годзе кампанія «Nonstop MEDIA» стала пераможцам адкрытага конкурсу нацыянальных кінапраектаў, абвешчанага Міністэрствам культуры Беларусі. Фільм атрымаў дзяржаўную дапамогу — працей кажучы, быў зняты за грошы беларускіх падаткаплацельнікаў — па розных падліках, ад 2 да 5 мільёнаў долараў. Каб перамагчы, апрача ўсяго іншага, кінастужкі трэба было адпавядаць канкрэтнаму крытэру: мастацкі фільм мусіць здымацца на аснове падзей найноўшай гісторыі Беларусі, а сярод акцёраў мусіць быць сусветна вядомая зорка, дакладней, дзве зоркі класу «А». Фармальна, усе ўмовы замовы былі выкананыя.

## Два пішам, тры ў розуме

Калі студэнты-сцэнарысты пішуць першыя тэксты, вельмі часта яны штосьці маюць на ўвазе, там, у галаве, у планах, унутранай драматургіі (звычайна, яны спісваюць гэта на «аўтарскае кіно і бачанне»), ім памылкова здаецца, што нібыта ўжо само сабой маецца на ўвазе тое, што думаюць. Але ніхто з гледачоў не зможа залезці ў галаву стваральнікам і прачытаць сэнсы, якіх папросту нестае. У выкладніцкай практыцы звычайна апярэджваюць гэтую недарэчнасць, як «2 пішам, 3 у розуме», прапануючы выкарыстаць «бонусныя вочы» — папросту даць прачытаць-паглядзець тэкст альбо відэаматэрыял камусьці, для каго ён «не родны», не прыеўся, як манка ў яслях.

У фільме паказана «Плошча», дакладней, яе разгон, — Плошча бяздумная, бяздушная, бессэнсоўная, абсалютна не матываваная, проста дзеля «а пайшлі, бо ўсе ідуць». Калі казаць прасцей — статак. Чаму людзі ідуць на Плошчу? Што імі кіруе? Невядома. Чаму забойца перараззе артэрыю наіўнай памочніцы ў гатэльным нумары? Чаму хоча забіць амерыканку Сару на БЕЛАЗе? З фільма гэта не зразумела. І зразумець немагчыма, можна толькі здагадвацца альбо дадаткова выслухоўваць тлумачэнні аўтараў.

Стваральнікі карціны сцвярджаюць, што кіно планавалася чатырохсерыйным — і калі паглядзець увесь матэрыял без скарачэння, то тады ўсё ясна. Але каго гэта цікавіць? Калі людзі ідуць на фільм, які заяўлены як нацыянальны кінапраект, зроблены для іх, яны чакаюць, прынамсі, таго, каб убачыць, зразумець, пра што кіно. За што яны заплацілі двойчы і нават тройчы: першы раз — падаткамі, другі раз — квітком, а трэці раз — сваім даверам і часам.

Чаму брат два гады не можа і не спрабуе сказаць брату, што не адбіваў у яго дзяўчыну, не спаў з ёй? Эпізод з апраўданнем сітуацыі (ён гаварыў пра іншую дзяўчыну, якую зацягнуў да сябе, а не пра тую, братаву, якую на вачах брата ўзяўся падвесці [нават у перакaзе гэта гучыць дзіўна] — выглядае папросту бездапаможна).

Чаму журналістка, якая да таго ж асвятляе передвыбарчую кампанію, нічога не чула пра Плошчу? Нібыта зайчанятка радасна з мікрафонам яна скача ў гушчу падзей, выпадкова трапляючы з аператарам у аварыю пры натоўпе, што рухаецца ў кірунку Дома Ураду. І нібыта яна не кепская, і служба аховы прэзідэнта трымаецца сваёй праўды — абараняе чыноўнікаў. Усе нібыта і не чорныя, і не вінаватыя. І людзі на вуліцах — нібыта і не ведаюць, куды ідуць, так сабе — разбягаюцца па роўненькіх шэрагах. Але не адпускае адчуванне, што #чтотонетак. А насамрэч — не нашым, не вашым. Чаму служба аховы прэзідэнта раптоўна — замест адказнага задання неадкладна праверыць аб'екты да яго прыезду — кідае ўсе сілы на ахову амерыканкі? Чаму, чаму, чаму? Зашмат гэтых чаму.

Па задуме, фільм мусіў распавядаць пра здраду (уяўную), крыўду, боль, трагедыі, любоў, і ўрэшце — уз'яднанне двух братоў, што працуюць ва ўнутраных органах РБ, у кантэксце падзей сучаснай Беларусі. Але нават першы крок, іх канфлікт — надуманы. І ад яго — далей усе рассыпаецца. Няма галоўнага адказу — дзеля чаго? Калі б фільм рабілі пра Заходнюю і Усходнюю Украіну, пра брацкую вайну пад пільным вокам уплывовых дзяржаваў, пра сусветную змову — было б больш зразумела. Калі б фільм рабілі пра братоў, што размаўляюць на розных мовах, падтрымліваюць розны дзяржаўны строй — было б апраўдана.

Магчыма, калі можна было змяніць жанр. І ўсю недагаворанасць падагнаць пад яго... Напрыклад, прыпавесць — не патрабуе прыземленай канкрэтыкі, яна больш метафарычная.

Меркавалася, што «фільм «Мы, браты ...» стане першым камерцыйным кінапраектам у Рэспубліцы Беларусь, знятым па прафесійных стандартах Галівуду з прыцягненнем зорак сусветнай велічыні і з наступным сусветным пракатам» — прынамсі, так заяўлялі стваральнікі. Але пра якую камерцыйную выгаду размова? Калі людзі на фільм папросту не ідуць пры ўсёй яго рэкламе?

У выніку мы маем толькі добрыя спецэфекты. І іх зашмат.

## У чым памылкі, брат?

Памылка першая — у спробе зрабіць дарагое і якаснае кіно, калі не ўмеем рабіць малабюджэтнае.

Афіцыйная спроба зрабіць фільм пра сучасную Беларусь скатваецца ў тое, што ствараецца фільм, які хоча не раскрыць альбо падаць у пэўным ракурсе, а папросту абмінуць і замаўчаць беларускія нацыянальныя праблемы. У гэтым памылка другая.

Зашмат шуму. Няўжо па досведзе Курэчыйка і Вячоркі не ясна, што чым больш крыку — тым мацнейшыя чаканні. І тым большыя расчараванні. У гэтым трэцяя памылка.

Памылкай было і гнацца за чужым (чужой краінай, чужымі зоркамі, чужымі тэмамі), не шукаючы свайго, не зважаючы, не бачачы, замоўчваючы.

Ну і, нарэшце, нацыянальны кінематограф можа быць толькі пра нацыянальныя каштоўнасці, пра нацыянальныя праблемы, пра краіну сваю і сваіх людзей. Пажадана — на сваёй мове, якая тут толькі дапаможа.

Найвялікшая праблема фільма ў тым, што ён анансаваўся як нацыянальны, як кіно пра Беларусь. У ім ёсць жаданне дагадзіць — і нашым, і вашым. І цьмянасць, якая тут выглядае на адметнасць, а не на адсутнасць адметнасці.

У адным кіно ўсё ж атрымалася беларускім. Структурна яно адпавядае сутнасці таго, што цяпер адбываецца з беларускім грамадствам. Тут няма чырвонага, няма зялёнага, няма чорнага і няма белага, усе змяшалася, толькі адно стабільнае жоўтае няўцямнае святло. Ты не ведаеш — ісці ці чакаць. Прагаласаваць за кагосьці ці супраць усіх. Ці не галасаваць увогуле. Бо той — хто, здавалася, свой, — ён і нясе код Каіна... Ці ўсё ж не?

*У нумары 37 у артыкуле «Малдаванін, які паважае беларусаў і нашу мову...» замест прозвішча намесніка галоўнага рэдактара «Вожыка» Алеся Каршакевіча было надрукавана прозвішча Кашкурэвіч. Аўтар артыкула Лявон Целеш і рэдакцыя «Новага часу» прыносяць свае прабачэнні Алесю Каршакевічу і нашым чытачам.*

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1295

Падпісана да друку 9. 10.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.